


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Птушкі Яна Чабана→3

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3060) Год LX | Беласток, 4 студзеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




„Слово пісанэ чы рысованэ, воно живэ і дыхае" — на матчынай мове напісала Вера Русіновіч з Нарвы, сёлета адзіная ўдзельніца „Дэбюту" з тамашняга боку. Сёлетні выпуск Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют" па ліку ўдзельнікаў пераўзышоў усе спадзяванні.

# XVII Дэбют — слова жыве і дыхае

На конкурс прыйшло ў „Ніву" (суарганізатарку конкурсу з Беларускім саюзам у Польшчы, пры падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і Саюза беларускіх пісьменнікаў) з усёй краіны 87 падборак прац ад 84 аўтараў-пачаткоўцаў, якія не належаць да літаратурных прафесійных суполак. Вучні сярэдніх школ (адзін) і дарослыя, з другой катэгорыі, даслалі на разгляд 26 нізак твораў (4 асобы дэбютантаў), затое з вялікай групы 61 школьніка з пачатковых школ і гімназій першы раз прыняло ўдзел у конкурсе аж 35 малодшых творцаў! А гэта плён працы настаўніц — Віялеты Нікіцюк-Пэркоўскай (ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), якая заахвоціла да літаратурных спроб 20 сваіх вучняў, Эміліі Грыкі з Міхалова (28 аўтараў) і настаўніц з Комплексу школ у Нараўцы Лілі Тарасевіч і Анны Кандрацюк, якія ўжо гадамі рыхтуюць маладых паэтаў. Дарэчы, Нараўчанская гміна, у якой працягваецца плённы час узгадоўвання літаратурных „самасеек", розгнага ўзросту, і сёлета ачоліла стаўку. Войт Нараўчанскай гміны спецыяльна выслаў на пазычаным аўтобусе (школьны зламаўся) цэлую аўтарскую дэлегацыю — пачынаючы ад малечаў, аж да самых пажылых аўтараў, якія збіраліся на дарозе на завяршэнне конкурсу ў Беластоку 20 снежня 2014 года ў кліматычным літаратурна-мастацкім клубе „Змена клімату" па вуліцы Варшаўскай, 6, які, здаецца, ніколі не сабраў столькі літаратараў на адзін „івент". Аздобіла ўрачыстае завяршэнне конкурсу выступленне барда і публіцыста Уладзіміра Хільмановіча, які таксама прэм'ерна спрэзэнтаваў усім сваю новую кнігу „Беларускае золата".

— Я маю перспектыву ад першага выпуску „Дэбюту", — прызналася Надзея Артымовіч, старшыня журы конкурсу, у якім былі яшчэ вядомы паэт Юры Плютовіч ды паэт і даследчык з Гродна Янка Трацяк. — У гэтым выпуску ёсць шмат цікавага, можна знайсці штосьці для сябе. Конкурс не навучыць пісаць, але можа сканфрантаваць з іншымі. Добра, калі ёсць хоць два-тры выдатныя творы, каб конкурс выканаў сваё заданне. Я пад уражаннем тэкстаў, вершаў і прозы „Лазовай" — Веры Радзіванюк, яе нейкай сваёй чалавечнасці, у яе складнасці фразы старой жанчыны. Аўтары маюць інструмент — мову, на ёй пішуць. Літаратура гэта для нас вельмі адказная справа. Ані конкурс, ані мецэнат не навучаць пісаць. Пісаць трэба пры кожнай нагодзе — не толькі на конкурс. „Ніва" адкрытая, друк у ёй — набліцыя. Добра, каб аўтары, тыя, хто хочуць прысвяціць сябе літаратуры, ведалі, што пісанне гэта камень, сцяна. Мы ж пасівелі і страцілі здароўе на літаратуры! Пісанне — гэта самы цяжкі жыццёвы шлях, гэта самастойная, настойлівая праца. І чытанне, чытанне, чытанне!

*А верш напісаць / Рэч не простая./ Можа, вясною?/ Разам з прыродай/ натхненне паэта збудзіцца?* — трохі жартам прызнаўся ў сваім творы ўзнагароджаны II месцам аўтар з Сопата Міхась Куптэль. Вядомы, праўда, чытачам? Так, сапраўды, тыя, хто пішуць, пішуць не толькі на конкурс. Некаторыя, праўда, яшчэ „ў стол", а толькі адвагі набраць трэба абнародаваць свае думкі і пачуцці. У першай групе ў катэгорыі паэзіі I месца здабыла „Зорачка" — Наталля Васько з Тарнопаля, нараўчанская гімназістка. На другім месцы сярод маладых паэтаў — вучаніца шостага класа беластоцкай праваслаўнай школы Вераніка Кардзюкевіч (інтэрв'ю з пастаянай карэспандэнткай — у „Зорцы"). На трэцім месцы — маладыя паэты Міхась Сахарчук з тае ж школы і Наталля Алексяюк з Тапалян, вучаніца школы ў Міхалове. Вылучаны — Магда Бляўская з Нараўкі і Аляксандр Семянюк з праваслаўнай школы. У прозе перамагла гімназістка з Нараўкі Караліна Каравай, якой экалагічна-філасофска-прыгодніцкае апавяданне „Максім і Сашка" было бадай ці не найлепшай прозай цэлага конкурсу. У другой групе ў паэзіі перамог Багдан Дудко з Цісоўкі Міхалоўскай гміны багатай падборкай вершаў (развітальна прыняў удзел у „Дэбюце", паколькі выйшла ўжо яго кніга), падобна як пераможца ў катэгорыі прозы Віталь Воранаў (з Мікушына ў Вялікапольшчы) за апавяданне „Леварукі". На трэцім месцы апынуліся вершы Веры Масайлы з Гайнаўкі і Марыі Беаты Ягадзінскай з Варшавы (тут прапанова журы, каб аўтары мянялі свае пастаянныя псеўданімы). Вылучана паэзія Ірэны Лукшы і Славаміра Куліка з Гайнаўкі, Веры Радзіванюк з Міхнаўкі і Мікалая Варанецкага з Альхоўкі Нараўчанскай гміны. У прозе за ўжо, так сказаць, не пачаткоўцам у родным слове Віталем Воранавым другім месцам вылучаны ўспаміны Веры Радзіванюк, якой давялося ў школу хадзіць толькі паўтара года, найстарэйшай сярод удзельніц конкурсу. І яе творы, і выдатныя творы іншых немаладых аўтараў, такіх як найстарэйшы з іх Анатоль Парэмбскі (1926 года нараджэння), Ян Федзюкевіч з Гарадочыны, Ніна Анджэюк (проза, якую вельмі хваліць Янка Трацяк), як і іншых аўтараў будуць друкавацца ў „Ніве".

Сярод удзельнікаў конкурсу „Дэбют" на працягу гадоў выйшлі аўтары, якія прымалі ўдзел у конкурсе гадамі, у якіх ёсць ужо свае кнігі, напрыклад, Юрка Буйнюк (які пачаў удзельнічаць у „Дэбюце" ўжо з пачатковай школы ці Кацярына Сянкевіч і іншыя, якія сталі філолагамі, журналістамі. Заўсёды за пяро бяруцца, каб выказаць свае думкі на роднай мове, цэлыя сем'і, з розным вынікам, але шчыра. Сёлета з выдатным вынікам (I месца) прынялі ўдзел у літаратурным змаганні аж трое Кардзюкевічаў з Грабоўкі, вучняў Пачатковай школы імя Кірылы і Мяфодзія — Вераніка, Зузанна і Ігар. З Нараўкі напісалі вершы і прозу сёстры — Магдаліна Бляўская (вылучэнне) і Аляксандра Сасновая. З Тарнопаля Нараўчанскай гміны выдатныя вершы прыслалі Наталля Васько (I месца) і яе брат Радаслаў, адзіны беліцэіст (гайнаўскі), які адважыўся сёлета даслаць свае вершы. З Гайнаўкі прыслалі свае творы маці Ірэна Лукша (вылучэнне) і дачушка Дыяна Юрчук, вучаніца КШ № 3. Бабуля Зінаіда Кандрацюк з Беластока, пенсіянерка, пастаянная ўдзельніца конкурсу, стала са сваімі вершамі супраць сваёй унучкі Мартыны Леанеўскай з Вроцлава, па прафесіі лекара ветэрынарыі (яе творы пахваліў Янка Трацяк). Кожны з іх хацеў „слова роднае сказаць, падзяліцца з „Нівай", што ў душы асталась мілэ" — як натруджанай рукой напісала Вера Русіновіч з Нарвы, родам з Катлоўкі, гаспадыня-земляробка.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Пад бой курантаў

Сустрэчу расійскага кіраўніка з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі беларускія тэлегледачы чакалі хіба што з большым інтарэсам, чым тэлеаўдыторыя ў самой Расіі. Мабыць, упершыню з часу аднаўлення незалежнасці думкі чужога кіраўніка сталі для жыхароў сінявокай цікавейшымі, чым уласнага. Хоць, у адрозненні ад усходняй суседкі, па беларускіх тэлеканалах можна было паглядзець шмат разнастайнага, а не толькі дасканала прадуманую і добра падрыхтаваную прамову Уладзіміра Пуціна. Гэта была па сутнасці першая масавая страта тэлеаўдыторыі беларускім кіраўніцтвам.

Можна ж было атрымаць тлумачэнні на злабадзённыя пытанні ад свайго ўласнага кіраўніка сваёй жа ўласнай краіны. Ён у гэты дзень мог скласці тэлеканкурэнцыю свайму расійскаму калегу. Але гэтым разам беларусы напэўна вызначыліся ў тым, што больш ад уласнага кіраўніцтва наўрад ці што залежыць, асабліва ў эканамічнай сферы. І вырашылі атрымаць інфармацыю непасрэдна з першакрыніцы.

Зразумела, што беларусы яшчэ з часоў Савецкага Саюза навучыліся чытаць паміж радкоў і слухаць паміж слоў, атрымліваць інфармацыю ў паўзах дакладчыка і нават у падрыхтаваных пытаннях падстаўных журналістаў. Таму не трэба думаць, што яны паверылі ўсяму таму, пра што непасрэдна даводзіў начальнік самай вялікай па тэрыторыі краіны. Яны зрабілі свае высновы з пачутага і вынікам гэтага віртуальнага спаткання праз блакітныя экраны стаў рэальны штурм абменнікаў і крамаў у самой Беларусі.

Беларускія ўлады вельмі хацелі гэтага пазбегнуць. Таму і супакойваў суайчыннікаў беларускі лідар, завяраючы што мы то не дурні і ўслед за суседзямі свой рубель абвальваць не збіраемся. Толькі гэтым разам беларусы паверылі расійскаму выступоўцу.

І гэта можна было дакладна спрагназаваць. На тое ёсць дзве важкія прычыны. Першая — давер або недавер насельніцтва да заяў сваёй улады. І тут чарговы раз чакаць сляпой веры ад гэтага, ужо пасталеўшага і набыўшага на практыцы мінімум палітычнай адукацыі насельніцтва было верхам неразумення законаў развіцця грамадства. Беларусы ўжо прывыклі да навагодніх падарункаў ад уласнага кіраўніцтва звязаных з валютнымі гульнямі. Таму ў тое, што беларускі рубель стане мацнейшым у дачыненні да іншых валют, яны ўжо не паверылі. Ну і як можна паверыць у моц эканомікі, якая ўсур'ёз звязвае свой пад'ём з прымусовым працаўладкаваннем „тунеядцаў"?!

І другое. Беларускай уладзе даволі часта ўдавалася пераконваць суайчыннікаў у многіх неверагодных рэчах, выкарыстоўваючы манаполію на інфармацыю, і не дапускаць на сваю медыяпрастору аніводнай альтэрнатыўнай думкі. А вось зараз і ў гэтай галіне пайшоў збой, а паралельны выступ двух кіраўнікоў толькі першая ластаўка. Беларускі кіраўнік, які так удала для сябе ўмеў арганізоўваць сустрэчы з расійскай прэсай, пачаў рэзка саступаць і ў гэтым кірунку свайму расійскаму калегу ды губляць нават беларускую аўдыторыю. І зараз, на Новы год, адбудзецца сімвалічная перадача сваёй зманапалізаванай медыяпрасторы ў лапы канкурэнта.

Беларусь разам з самааб'яўленымі ДНР, ЛНР і захопленым Расіяй Крымам не перавялі гадзіннікаў на зімовы час і сталі жыць па маскоўскім часе. І Новы год будуць сустракаць пад бой крамлёўскіх курантаў, а значыць і пад выступ расійскага кіраўніка. Саветызаваная беларуская аўдыторыя наўрад ці пераключыцца з больш феерверчатых расійскіх каналаў на беларускія, каб паслухаць выступ свайго кіраўніка. А гэта не толькі сімвалічна, але і знакава. Беларусы за навагоднім сталом будуць абмяркоўваць выступ іншага лідара, забыўшыся пра свайго. А сустрэча Новага года па славянскай традыцыі цягнецца вельмі доўга.

Памяняўшы свой біялагічны час на маскоўскі, беларуская ўлада свой уласны час яўна скрацыла. Як мінімум на час такога псіхалагічна важнага навагодняга выступу. Як максімум, зачышчаны ад альтэрнатыўнага беларускага меркавання, а значыць і ад імунітэту самазнішчэння медыяпрасторы, можа лёгка зваліцца ў рукі канкурэнта. Зноў жа, пад пераможны бой маскоўскіх курантаў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пажаданні старога метэарапата



На працягу некалькіх гадоў павялічваецца ўва мне метэарапатычная (або: метэапатычная) успрымальнасць. Гэта прыводзіць да крайняй раздражненасці пры раптоўных зменах у надвор'і і атмасферных варыяцыях, якіх не шкадуе людзям прагрэсіўнае пацяпленне. Асабліва дапякла яна мне ў апошнюю дэкаду снежня. Таго «грэгарыянскага» снежня, калі марасіў дождж, дзьмулі ненавісныя вятрыскі і барычная амплітуда то пікавала ўніз, а то як шалёная блыха падскаквала нашмат вышэй дапушчальнага ўзроўню рэакцыі цела на атмасферныя непаладкі. Так што гэта было для мяне як канец свету. Раздражнялі мяне ўсе і ўсё — нават мой сабачка, якога я абвінавачваў у тым, што віляе хвастом занадта гучна. Не ведаю чаму я жорстка на яго за гэта прабурчаў. На жаль, ён не быў адзінай ахвярай майго метэапатычнага амоку. Дасталася таксама ў нічым невінаватым шматлікім людзям, ужо пра сябе не буду згадваць.

Мой сардэчны сябра, які доўгія гады жыве ў Нарвегіі, якому я скардзіўся на метэапатычную нямогласць, даслаў мне па электроннай пошце суцяшэнне: «Я магу толькі паспачуваць тваёй метэапатычнай пакуце. Гэта жудаснае пачуццё, калі Натура тузае чалавекам, як дзіравым бульбяным мяхом. Праўда, могуць прытрапіцца горшыя рэчы — падарожжа ў Сібір зімой у цялячым вагоне без ацяплення, пражыванне ў гасцінічным нумары з Яраславам Качынскім, гангрэна косці і мазгавы сверб, але не пярэчу, што звышадчувальнасць надвор'я можа таксама хваравіта дражніць. Менавіта ў такіх выпадках трэба прымаць гэта і чакаць лепшых дзён. Мы ж становімся старэйшымі, мы павінны мець большае разуменне ўсіх нашых бед і катаванняў, якія нас не шкадуюць: больш частых захворванняў, у фізічнай і псіхічнай няспраўнасці пажылога ўзросту, у вянучай памяці, дарэчы, ніхто не абяцаў нам лепшага жыцця, чым тое што было нам дадзена. Таму, пакуль можам, давайце дбаць аб сябе; давайце паспешнічаць, узнагароджваць, хаця б грэючым кілішачкам гарэлкі перад сном, і, кісленькім агурчыкам дзеля лепшага стрававання...».

Ну, так, гэта лёгка даць добрыя парады, калі жывяце ў Нарвегіі, дзе сонечны мароз, калі прыйдзе, дык такі самы аж да вясны. У Польшчы клімат, як у гарцы — усё гатуецца ў ім адразу: вясна з зімой, лета з восенню... Нялёгка быць у Польшчы метэарапатам.

Метэарапатыя гэта не хвароба. Гэта проста абумоўлены аўрай псіхічны стан. Я хацеў бы дадаць, што вельмі дыскамфортны. Перш за ўсё таму, што збівае з панталыку. З філасофскага панталыку. А гэта так: шмат працуеш на дасягненне стану філасофскай асалоды, заснаванай на добразычлівай свету памяркоўнасці, і ўжо паглядаеш на ўсё прамяністым вокам, а тут у адну секунду ўсё развальваецца, калі атмасфера пачынае бушаваць і выплёўваць свае капрызныя яды. Яны атручваюць арганізм, мозг, розум. Пачынаецца з крайняга раздражнення, што прыводзіць да разладу адносін з самім сабой і з іншымі. Канчаецца — на бязмэтнай нянавісці. А хацелася б, каб ставіцца да свету з памяркоўнасцю, роўнай беззапальнасці Эраса да захворвання пад назвай каханне. На гэтую своеасаблівую хваробу грэцкага бога звярнуў увагу дацкі філасаф Сёрэн К'еркегор. Толькі Эрас — па яго словах — з цэлай плеяды грэчаскіх багоў — менавіта бог кахання — быў зусім абыякавы да... любоўных клопатаў, якіх быў прычынай. Сапраўды гэтак жа, як і ён, я б хацеў, каб дасягнуць найвышэйшага ўзроўню абыякавасці да хваробы, званай жыццём — з яго паламі, шалёнымі амбіцыямі, негатыўнымі эмоцыямі... Я хацеў бы быць чалавечай статуяй. Не помнікам. Статуяй! І неабавязкова мармуровай. Тэраццa-надмагільнай мог бы быць. Стаяў бы на месцы, шчаслівы, не звяртаючы ўвагі на тое, што галубы радасна абкакваюць маю тэраццавую галаву, што п'яны, прыперты патрэбай, абпырсквае мяне мачой, што прышчатая парачка ў маім ценю спазнае хваляванне першых абдымкаў... Але праблема ў тым, што з-за метэарапатыі я не мог бы застацца ў абыякавасці. Галубоў раздзёр бы на шматкі, п'янчужку пнуў бы нагой, а маладзёнам уперыў бы гарачых плескачоў. І гэта ўсё. Столькі аб метэарапатыі. Тым не менш, я спадзяюся, што апошняя дэкада снежня, на гэты раз «юліянская», будзе больш ласкавай для мяне і ўсіх метэапададлівых чытачоў. Асабліва тых, хто жыве ў Польшчы, дзе надвор'е кіпіць, як палітыка і паўсядзённае жыццё.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца



# Размеркаванне грошай

Колькі грошай з дзяржаўнага бюджэту на 2015 год атрымаюць арганізацыі нацыянальных меншасцей, размеркавала Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. На рэалізацыю ў 2015 годзе «задач, накіраваных на абарону, захаванне і развіццё культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей ды захаванне і развіццё рэгіянальнай мовы» гэтае ведамства прызначыла 15 мільёнаў 644 тысячы зл. (на 684 тыс. зл. больш, чым у 2014 г.). Прадставіла субсідыі для некаторых інвестыцый, звязаных з дзейнасцю беларускай меншасці: на мадэрнізацыю даху і галерэі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы і адаптацыю Цэнтра беларускай адукацыі і прамоцыі «Шчыты». На жаль, чарговыя «Трыялогі» ў Крынках, арганізаваныя Фондам «Віла Сакрата», не могуць чакаць у гэтым годзе падтрымкі МАіЛ, па меншай меры няма іх у гэтай датацыйнай размяркоўцы. У мінулым годзе міністэрства на «Трыялогі» з гэтага пула выплаціла 19 тысяч зл. Што такое здарылася, што не прызначылі датацыі на «Трыялогі» — аб гэтым праз тыдзень.

Крыху больш, чым год таму атрымала «Ніва» (на 22,5 тыс. зл.), але, як кажа наш галоўны рэдактар і старшыня Праграмнай рады Яўген Вапа, гэта не дасць нам магчымасці развінуць крылы (па меншай меры для паляпшэння якасці друку), але гэтая сума датацыі дазволіць перажыць чарговы год, пасля многіх гадоў захоўвання тыднёвіка на тым самым фінансавым узроўні, а нават пры скарачэннях бюджэту на яго выдаванне. Зараз гэтая сума складае 492 тыс. зл. Прыблізна падобную падтрымку, як у мінулым годзе, атрымалі арганізаваныя «Нівай» літаратурны конкурс «Дэбют», чарговы выпуск літаратурных сустрэч «Бязмежжа» і Сустрэч «Зоркі». У сваю чаргу на 7000 зл. больш забяспечыць міністэрства на выдаванне штомесячніка «Czasopis» (агулам 160 тыс. зл.).

Коратка пераглядваючы пералік прызначаных датацый, можна зрабіць выснову, што большасць праектаў падтрыманых МАіЛ дафінансавалі ў рамках іх працягу прыкладна на адным узроўні, як у мінулым годзе. На фінансавую дапамогу могуць разлічваць мерапрыемствы, звязаныя з адзначэннем стагоддзя бежанства. Сярод іншага, Беларускае гістарычнае таварыства атрымае падтрымку на арганізацыю канферэнцыі аб бежанстве ў традыцыі беларусаў Падляшша, Музей малой айчыны атрымае датацыю на адукацыйную дзейнасць па гэтым пытанні і гісторыка-мастацкі лагер, прысвечаны гэтай тэматыцы, Праграмная рада «Нівы» на выпуск кнігі «Бежанства 1915 года» ці Беларускае аб'яднанне студэнтаў на студэнцкія сустрэчы з гісторыяй па гэтым пытанні (дарэчы: «Купалле» запланаванае БАСам не атрымала ні граша).

На міністэрскую дапамогу могуць разлічваць калектывы «Жэмэрва» і «Маланка», але ўжо не «Чыжавяне» (за грошы на іх дзейнасць звярнуўся Гмінны цэнтр культуры ў Чыжах). Не атрымаў падтрымкі праект «адукацыя ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы». Зноў жа не атрымалі падтрымкі заявы БГКТ на дафінансаванне Фестывалю Беласток — Гродна, навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці», фестывалю «Без межаў» у Сямятычах і «Беларускія дажынкі». Аднак, на шэраг іншых мерапрыемстваў БГКТ атрымала грошы, і найбуйнейшае — фестываль «Беларуская песня» — 141 тыс. зл. (у мінулым годзе — 134 тыс. зл.). Напрыклад, беларускія фэсты ў дзесяці мясцовасцях, падрыхтаваныя БГКТ, атрымалі падтрымку памерам 60 тыс. зл. (у 2014 г. — 57 тыс. зл.). Менш на 39,5 тыс. зл. атрымае Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча — Беларусь для праграм радыёвяшчання на беларускай мове для жыхароў Беласточчыны (у рамках дзейнасці Радыё Рацыя). Падобныя сродкі паступяць на рахунак Фонду «Віла Сакрата» на арганізацыю сёлетняга выдання «Басовішча» (сёлета будзе 100 тыс. зл.; летась было 95,5 тыс. зл.) і Асацыяцыя «Шчыты» на фестываль «Бардаўская восень» (сёлета будзе 50 тыс. зл., год таму было 47,5 тыс. зл.).

Надалей малаактыўнымі, калі гаворка аб хадайніцтве за датацыі з МАіЛ на дзейнасць звязаную з беларушчынай, з'яўляюцца беларускія культурныя цэнтры рэгіёна. Актыўнасць у здабыванні гэтых сродкаў паказваюць тыя самыя цэнтры. У гэтым годзе Белавежскі цэнтр культуры атрымаў падтрымку на беларускія вячоркі, выкананне касцюмаў для Маладзёжнага беларускага калектыву «Сінічкі» і дзейнасць групы «Ручаёк». ГЦК у Чыжах на гэты раз атрымае дапамогу м.інш. на праект «Кулінарныя традыцыі беларускай меншасці Падляшша — чыжоўскія пірагі і не толькі». Зноўку будзе праведзена пры падтрымцы міністэрства «Прымацкая бяседа» ў Міхалове (30 тыс. зл.). Гарадоцкі культурны цэнтр таксама дзякуючы грашам Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі сарганізуе фестываль «Сяброўская бяседа» (40 тыс. зл.), а таксама цыкл забаў пры беларускай музыцы (15 тыс. зл.). Не пераканала МАіЛ заява гарадоцкага цэнтра на выданне кнігі, прысвечанай паўстанню 1863 года ў Гродзенскай губерні.

Пры праглядзе спісу прызначаных датацый кінулася мне ў вочы таксама аднасна вялікая сума (35 тыс. зл.) на праект Асацыяцыі праваслаўная ініцыятыва «OrthNet»: «Беларускія смакі Падляшша — авовед пра меншасці праз прызму кухні». Прасоўванне кулінарнай спадчыны абшараў, населеных беларускай меншасцю на партале cerkiew.pl». У той жа час, ні адна з нацыянальных прапаноў Згуртавання Праваслаўнае брацтва святых Кірылы і Мяфодзія не зможа разлічваць у гэтым годзе на падтрымку МаіЛ.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Бацькі Надзея і Яўген хацелі паслаць яго ў мастацкую школу ў недалёкай Супраслі. Хаця Ян надта любіў рысаваць і рабіў гэта паспяхова, думкамі і марамі заўсёды быў з прыродай. Яму мроіўся лясны тэхнікум у Белавежы. У канцы, угавораны сямейнікамі, паступіў у педагагічны ліцэй у Лапах. Там, у час 15-хвіліннага перапынку між урокамі рысаваў дамашнюю работу астатнім аднакласнікам. Прафесару, які вёў урокі рысунка, надта гэта не падабалася і, каб пакараць непаслухмянага вучня, усім ставіў пяцёркі, а яму адзінаму — чацвёркі.**





# Як птушкі з выраю

Ян Чабан нарадзіўся ў 1947 г. у пушчанскай вёсцы Баратыншчына Шудзялаўскай гміны. Атрымаўшы адукацыю ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Гданьску, а потым у Жэшаве, працаваў настаўнікам. Прызнанне майстра-разьбяра здабыў на пенсіі. Прыляцела яно як птушкі з выраю.

## Натхненне жыцця

Калісь на сенажаці пад Супраслю бацька вярхом касы ненаўмысна стукнуў у водную курку. Яна была рабая, незвычайнай прыгожасці. Курку прывёз дахаты. Хаця тады пяцігадовы Ясь быў адным з наймалодшых у дзіцячай грамадзы з чатырох малеч, бацька звярнуўся менавіта да яго. «Што з гэтым зрабіць?» — запытаў, паказаўшы птушку. Ясь здзівіўся чаму менавіта ён мае вырашаць пра лёс нешчаслівай куркі. Не ведаўшы што адказаць, толькі пацісную плячыма. Прыгожая курка папала ў расол.

З прыродай хлопчык жыў штодзень. А то кароў прыходзілася пасвіць, а то ў лес па грыбы ці ягады схадзіць. І заўсёды падглядаў птушак, хацеў даведацца дзе і чым жылі, як называліся. Незвычайных птушыных колераў і спеву навокал сапраўды было шмат. Для прыкладу, у лесе за Казлоўшчынай жылі чырвонагаловыя каралькі. Рукой можна было дакрануцца да цэлага іх статка, засеўшага на ялінавых галінах. Ян знаёміўся са штораз іншымі і штораз больш захаплянымі прадстаўнікамі птушынага роду. Калі паявіліся першыя, асабіста зробленыя грошы, пачаў купляць адпаведную літаратуру і фотаальбомы.

Чарговым этапам чалавеча-птушыных суадносін было прэпараванне мёртвых птушак, інакш кажучы выраб чучал. Яго птушыныя чучалы выглядалі як жывыя і надта падабаліся людзям. Усё-такі новы занятак не прыняўся, аказаўся супярэчным са светапоглядам заўзятага арнітолага. Паляўнічыя — самыя ярыя энтузіясты такога тыпу хатніх калекцый, стралялі не толькі паляўнічае птаства. Бывала, што заказвалі прэпараваць нават ахоўваных шулякоў. Ян вырашыў як найхутчэй замкнуць за сабой гэты раздзел жыцця.

Новы адчыніў, а дакладней раздзел сам адчыніўся ў 1997 годзе з моманту пераходу на пенсію. Усё па прычыне кніжкі пра мастацтва. Яна паходзіла з даўно закрытай школы, у якой Ян дачакаўся пенсіі. Кніжка сама раскрылася ў руках на старонцы прысвечанай разьбе Віта Ствоша, указваючы далейшую дарогу крыху разгубленаму вандраўніку. Віт Ствош займаўся рэалістычным мастацтвам, таму і Ян стараўся ісці яго следам. Меў ужо вопыт малявання рэалістычных карцін, а разьба па дрэве адкрывала перад ім магчымасці спалучэння дзвюх мастацкіх тэхнік. Адзінай творчай інспірацыяй надалей заставаліся птушкі.

Потым, год перад пачаткам птушынага разьбярства, на вуліцы зачапіла яго жанчына з Беларусі. Як у казцы Андэрсена пра дзяўчынку з запалкамі папрасіла, каб купіў жменьку вельмі танных долатаў. «Купіце, будзеце вырэзваць», — прадказала. Прадала апошнія, добрыя, беларускія долаты, якіх Ян ужо ніколі больш не спаткаў. «Здаецца, Бог кіруе людскімі дарогамі, — падумаў дзесяць гадоў пазней разьбяр. — Чалавек не прадбачыць заўтрашняга дня, аднак пераломныя здарэнні ў жыцці ўсё-такі бываюць».



Ян Чабан (злева) з Лявонам Тарасэвічам

## Народзіны

Перш за ўсё трэба забяспечыцца добра падрыхтаванай, пераважна ліпавай, драўнінай. Пры вялікіх скульптурах неабходна карыстацца пілой, у тым ліку электрычнай. Кавалкі дрэва прыходзіцца апрацоўваць таксама сякерай, пачынаючы з вялікай, скончыўшы на малой, цясляркай. Дэталі вырэзваюцца рознымі па размеры і форме долатамі і маленькімі ножыкамі. Гэта марудная праца, якая патрабуе вялікай засяроджанасці. Што выражаш, таго ўжо не вернеш. Выкідаеш толькі тое, што непатрэбнае. Долата вострае, калі моцнае дрэва, трэба ў яго ўдараць малатком. Сячэцца адзенне разьбяра, рукі, бывае, і тры разы ў дзень параніш. У такіх выпадках клеіш пластыр або прыкладаеш да раны кавалак паперы і працягваеш працу. Разьбяру неабходныя фантазія і ўяўленне формы. У новым занятку спадару Чабану спатрэбіліся ранейшы вопыт чучальніка, паходы з біноклем, добрыя прыродазнаўчыя фільмы і кніжкі. Тут важныя кожная дэталь, кожнае, нават найменшае, пёрка. У добра выразаным, яшчэ не пакрытым фарбай сілуэце, любы назіральнік павінен ужо распазнаць прапорцыі, прыналежныя канкрэтнаму гатунку.

## Крылатыя крытыкі мастацтва

Выстаўленыя на хатнюю веранду альбо майстэрню пад адкрытым небам фігуркі часта прыцягваюць увагу жывых двайнікоў. Бывае, што нешта ім не падабаецца і тады сварацца з разьбяром альбо атакуюць яшчэ не памаляваную птушку. Ластаўка прасядзела некалькі гадзін над яго плячом, руплівa сачыўшы за працэсам тварэння, у тым выпадку вясковай ластаўкі, інакш касаткі. Папялушка з малінаўкай надта не любяць канкурэнтаў, таму сур'ёзна насякерыліся, убачыўшы на сваёй тэрыторыі драўляных двайнікоў. Каб спыніць атакі зайздроснікаў, драўляныя ахвяры трэба было занесці ў хату.

## Сонныя мары

З птушкамі Ян гаворыць толькі ў сне. Тады прамаўляюць яны людскім голасам. У сне адбываюцца таксама сустрэчы з іншымі разьбярамі, у тым ліку з адышоўшымі ў лепшы свет. Там яны таксама маюць свае галерэі, ладзяць выстаўкі сваіх прац. Бывае, што ў такім сонным падарожжы можна наткнуцца і на райскую птушку. Напрадвесні сняцца яму ключы вяртаючыхся з выраю гусей, жураўлёў і лебедзяў. Белыя фігуры на зорным небе бачыць ён у сне таксама загадзя, да іх восеньскага адлёту.

## Ян папраўляе Бога

— сцвярджае Лявон Тарасэвіч і мае рацыю. Так гэта ёсць, што тэхнічна немагчыма ідэальна перадаць натуру. Гэта мог зрабіць толькі Юзаф Хелмонскі, але ён быў майстрам над майстрамі. Часам бывае, што ў выніку хваробы ці іншай бяды жывая птушка выглядае больш сціпла, чым драўляная. Людзі не хочуць глядзець на такіх птушак. Аднойчы жыхар вёскі звярнуў увагу на худога драўлянага бусла. «Спадар, — сказаў ён разьбяру, — гэты бусел хворы». Таму Ян стараецца, каб усе яго птушкі былі прыгожымі і здаровымі.

На адным з кірмашоў да Яна падышоў фатограф Віктар Волкаў. Надта яму спадабаўся зімародак, так яго хацеў набыць. На жаль нічога не атрымалася, бо ад зімародка рашуча адмовілася жонка фатографа.

## Крынскі «Птушыны рай»

Птушкі Яна Чабана папулярныя перш за ўсё ў Крынках — месцы іх паўстання. Тут дачакаліся яны трох выставак. Першая адбылася ў мясцовым доме культуры, другая — у школе, а апошняя — на салонах «Вілы Сакрата» па запрашэнні самога прафесара Лявона Тарасэвіча. Працамі разьбяра цікавяцца экалагічная аб'яднанні, белавежскія агратурыстычныя прадпрымальнікі, варшаўскія галерэі, а нават польскі Сейм. Сталая экспазіцыя пад загалоўкам «Птушыны рай» працуе, між іншым, у сядзібе Палескага нацыянальнага парку ва Уршуліне пад Люблінам. Крынскія птушкі з'явіліся нават у сталіцы Грузіі Тбілісі, куды адправіла іх наша Міністэрства культуры. Лётаюць яны і да сумуючых па бацькаўшчыне польскіх эмігрантаў ва Аўстраліі і іншых краінах свету. На стала ўпісаліся таксама ў пейзаж кірмашоў, арганізаваных Падляшскім музеем у Беластоку.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Гульня ў забойства

Наколькі мастацтва можа правакаваць? Ці артыст, які ідзе на кампраміс з рынкам, можа нам прапанаваць штосьці цікавае? На жаль, толькі такія думкі гучалі ў галаве пасля перформанса „Метад нацыянальнага вызначэння", які праходзіў пад канец лістапада ў беластоцкай галерэі „Арсенал". Перформанс, званы аўтарамі таксама „gra", сапраўды больш напамінала гульню ў забойства, чым правакаваў да глыбейшых роздумаў над трагедыяй людзей пацярпелых ад атрада „Бурага".

„Метад нацыянальнага вызначэння" — перфарматыўны праект, які кранае тэму забойства мірнага насельніцтва беларускіх вёсак атрадам Рамуальда Райса „Бурага". Хаця мінула ўжо 70 гадоў, трагічная падзея цэлы час жывая ў памяці, перш за ўсё сем'яў забітых. Да сённяшняга дня жывуць сведкі крывавага акту, які спрычыніўся да трагедыі некалькіх дзясяткаў людзей і яшчэ глыбейшага падзелу абедзвюх нацыянальнасцей і рэлігій. Да сёння людзі, якія пацярпелі ад агрэсіі былога капітана Арміі Краёвай, не дачакаліся кампенсацыі за перанесеныя крыўды.

Аўтары перформанса сягнулі па адну з важнейшых тэм — забойства нявінных людзей. Здавалася, што перформанс, які патрабаваў так многа падрыхтоўкі (нават у тэхналагічным плане), сведчыць аб глыбокіх роздумах і рэфлексіі над трагічнай падзеяй. Але ці сапраўды так было?

Цяжка ўвогуле зразумець, чым кіруюцца артысты, для якіх інспірацыяй з'яўляецца забойства мірных людзей і звязаная з гэтым траўма. Вядома, што аб гэтым трэба памятаць і трэба таксама падтрымліваць гэтую памяць. Пазітыўнае тое, што тэмай заняліся маладыя артысты, якія не маюць непасрэднага дачынення да гэтай падзеі. Гэта доказ на тое, што агрэсія „Бурага" на нявінных людзей сустракаецца з крытыкай і абурэннем, абвяргаючы тым самым погляд, што палякі заўсёды лічаць яго сваім героем.

Зразумелым з'яўляецца тое, што цягам гадоў форма „прыпамінання" аб злачынстве „Бурага" будзе мяняцца. Напэўна артысты не хацелі паўтараць канвенцыянальных форм у мастацтве, якія маглі б быць палічанымі мала арыгінальнымі. Аднак арыгінальнасць у гэтым канкрэтным выпадку давяла да неэтычнага, а нават трывіяльнага прадстаўлення падзеі з 1946 года.

„Zapraszamy Was do udziału w grze, w której każdy z Was w wyznaczonych ramach czasoprzestrzennych wciela się w przydzieloną mu rolę" — заахвочвалі аўтары перформансу на сваім сайце. На кожнай сустрэчы прымала ўдзел дзесяць добраахвотнікаў. Кожны даставаў навушнікі і нумар, дзякуючы якім вядучы мог даваць каманды ўдзельнікам. Апрача таго ўсе былі абавязаныя падпісаць дэкларацыю, што не будуць „мяшаць" у сцэнарыі і выконваць ніводных непатрэбных жэстаў апрача аднаго: далоні складзенай у такі спосаб, каб нагадвала пісталет. „Тройка, за хвіліну вырашыш каго з тваёй сям'і заб'еш", „нумар сем — распраніся", „чацвёрка, ты перад хвілінаю забіў людзей, цяпер танцуй". У перформансе былі выкарыстаны сапраўдныя гісторыі, якія мелі месца ў 1946 годзе.

Нягледзячы на светлыя мэты перформансу („pozwala przetestować granice władzy roli i sytuacji nad jednostką", „gra pozwala jej uczestnikom na przyjrzenie się swoim reakcjom w złożonych konfliktowych sytuacjach społecznych"), думаю, што ён у звычайны спосаб павярхоўна „выкарыстаў" тэму рэйду „Бурага", да банальнасці спрашчаючы паасобныя гісторыі гэтай трагедыі. Аўтары сканцэнтраваліся на гэтым, каб выклікаць у гледача эмоцыі, якія далёкія былі ад сапраўднага адчування і разумення сітуацыі. Увогуле не існуе такая магчымасць, такія крыніцы ці перформансы, якія маглі б растлумачыць нам ці прынамсі наблізіць да траўмы, праз якую прайшлі пацярпелыя.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Так мае быць

**У XXI Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, які арганізуе Гайнаўскі дом культуры, прыняло ўдзел 35 творцаў. Конкурсная камісія з прад'яўленых 134 прац адабрала на выставу 83 мастацкія работы. Падвядзенне вынікаў агляду і адкрыццё конкурснай экспазіцыі адбылося 7 снежня ў галерэі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы ў прысутнасці шматлікіх непрафесійных мастакоў, іх сямейнікаў і гайнавян, сярод якіх былі мясцовыя самаўрадаўцы, людзі культуры і адукацыі. Мерапрыемства адкрылі сакратар гайнаўскага магістрата Яраслаў Грыгарук, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і старшыня конкурснай камісіі Збігнеў Будзынскі. Яны таксама ўручылі лаўрэатам узнагароды і вылучэнні.**

— Мы, члены камісіі, зайздросцім вам усяго таго, што вы хочаце паказаць у сваіх працах, прэзентаваных на выставе. Ацэньваючы вашыя работы, мы мала што не пабіліся, а прызначаючы ўзнагароды хацелі заахвоціць вас ісці ўперад і шукаць новае ў мастацтве, — сказаў Збігнеў Будзынскі, гайнаўскі мастак і старшыня конкурснай камісіі. — «Так мае быць», — сказала мне нядаўна мая ўнучка, калі я хацеў, каб яна выправіла нешта на сваёй мастацкай працы. Такое дзіцячае выказванне ўзрушыла мяне. Падобнае я пачуў ад аднаго з удзельнікаў нашага агляду і зараз ведаю, што вы адкрываеце тое, чаго іншыя не могуць знайсці.

У пачатку і канцы сустрэчы Збігнеў Будзынскі паказаў свой музычны талент і разам з Яраславам Кавальскім выступіў перад сабранымі з песнямі.

— Сёлетні XXI выпуск нашага агляду моцна розніцца ад першых аглядаў. Павялічваецца колькасць прэзентаваных прац, павышаецца іх мастацкі ўзровень. Штораз больш месца займае разьба, нашыя мастакі штораз больш гуляюць колерамі. Наведваючы нашую выставу можна дэталёва пазнаёміцца з непрафесійным мастацтвам Гайнаўшчыны, — заявіў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

На выставе прэзентуюцца жывапіс, рысунак, карціны выкананыя мяшанымі тэхнікамі і разьба. Рэалістычныя работы размешчаны на экспазіцыі побач абстрактнага мастацтва, а скупыя ў колеры працы вісяць каля карцін насычаных моцнымі фарбамі. Міраслаў Хіліманюк, лаўрэат першага раўнапраўнага месца ў катэгорыі жывапісу, быў узнагароджаны за адкрытасць на новыя тэхнікі і новы спосаб паказвання рэчаіснасці, што камісія заўважала на карцінах «Чатыры поры года». На цікавых, у пэўнай ступені абстрактных работах, насычаных моцнымі колерамі, мастак паказвае сваё бачанне прыроды ў розныя поры года.

— Я раней маляваў у рэалістычным стылі. Хацелася паспрабаваць намаляваць інакш, больш абстрактна і ў іншы спосаб паказаць акружаючы нас свет. Стараўся я колерамі і формай запрэзентаваць новае і няхай кожны наведвальнік выставы глядзіць на мае чатыры поры года па-свойму. Я надалей адкрываю сябе ў мастацтве. Мая пятая карціна сведчыць, што я не перарваў сувязі з рэалістычным жывапісам, — сказаў Міраслаў Хіліманюк.

Старшыня конкурснай камісіі Збігнеў Будзынскі пахваліў Міраслава Хіліманюка за работу ў новых напрамках. Другое раўнапраўнае першае месца атрымаў Станіслаў Паскробка за пошукі новых колераў. Узнагароджаны быў яго алейны партрэт жанчыны.

— Я цэлы час шукаю ў сваіх працах новага, новых колераў і эмоцый. Прымаючы ўдзел у аглядзе хачу прыраўняцца да іншых мастакоў, — заявіў Станіслаў Паскробка.

На выставе ў белмузеі можна ўбачыць краявіды, партрэты, нацюрморт. Але ёсць там працы, на якіх кожны зможа ўбачыць нешта іншае, залежна ад свайго ўяўлення. Ужо чарговы раз сярод лаўрэатаў агляду апынуўся Яцак Некраш, якому камісія прызначыла першае месца ў катэгорыі рысунку. Мастак быў нават крыху здзіўлены, што яго работа была прылічана да гэтай катэгорыі.

— Я конкурсныя працы выканаў у мяшанай тэхніцы, але рады, што заняў першае месца. На сваіх работах паказваю ўнутраныя перажыванні і свае эмоцыі. Кожны па-свойму можа ўспрымаць тое, што ўбачыць на маіх работах, — сказаў Яцак Некраш, якога работы моцна розняцца па абстрактнасці ад іншых прац.

Сярод жывапісцаў Мікола Яноўскі атрымаў трэцюю ўзнагароду за паслядоўнае ўласнае паказванне прыроды.

— Я пастаянна прымаю ўдзел у аглядзе непрафесійнага мастацтва і займаў розныя пераможныя месцы. Праўду кажучы, мне падабаюцца рэалістычныя карціны. Я не люблю абстрактнага мастацтва. Але камісія ацэньвае па-свойму, — гаварыў Мікола Яноўскі, аўтар узнагароджанай карціны «Буслы».

Прыгожы рэалістычны алейны партрэт «Бабуля Ніна» выканала Тамара Кердалевіч і атрымала за яго вылучэнне. Дыяна Янчук з Навасадаў за алейную «Карціну са сну» і Юры Лукашук за акрылавую работу «Уражаная» таксама атрымалі вылучэнні ў катэгорыі жывапісу. Вылучэнне ў катэгорыі рысунка атрымала Мілена Курадчык за пастэльны партрэт бацькі «Генрык Курадчык», а Барташ Шпаковіч атрымаў узнагароду ў катэгорыі творцаў з абмежаванымі магчымасцямі за акрылавую работу «У галаве». Прафесійныя мастакі з Гайнаўкі ведаюць ужо магчымасці лепшых непрафесійных творцаў Гайнаўшчыны, частка якіх сёлета рашылася паспрабаваць сіл у абстрактным мастацтве. Паявіліся таксама работы новых творцаў.

— Відаць, што вялікую працу выканаў Міраслаў Хіліманюк, разгортваючы свой талент. У яго выпадку добра, што адыходзіць ад рэалістычнага напрамку ў бок пэўнай абстрактнасці, а яго «Чатыры поры года» пацвярджаюць сказанае мною. Станіслаў Паскробка — вельмі вопытны мастак, які не затрымаўся, цэлы час разгортвае свой талент і шукае новага ў мастацтве. Яго партрэт жанчыны вылучаецца мастацкай спеласцю. Мікола Яноўскі — прадстаўнік зусім іншага, дэталёвага рэалістычнага жывапісу і цэлы час удасканальвае свой варштат указвання дэталяў. Радуе, што жывапісцы не затрымаліся, шукаюць новага ў мастацтве і выявілі гэта на прэзентаваных тут працах. Мне вельмі цікавае мастацтва Яцка Некраша, якое робіць вялікае ўражанне на гледачах з-за сваёй эмацыйнасці. У Януша Кулешы (другое месца ў катэгорыі рысунка — А. М.) добры варштат працы. Сваё рэалістычнае мастацтва прэзентуе штогод, а сёлета паказаў добры партрэт дзяўчынкі. Характэрныя рысункі тушшу выконвае Юры Жукоўскі (трэцяе месца ў катэгорыі рысунка — А. М.), у якога таксама цікавы варштат працы, — ацэньваў непрафесійных творцаў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі, які займаецца ў майстэрні ў белмузеі і тут вядзе заняткі для аматараў мастацтва.



Мікола Ягадніцкі з жонкай Івонай побач узнагароджанай скульптуры



Лаўрэатамі першага месца ў катэгорыі жывапісу сталі Міраслаў Хіліманюк (справа) і Станіслаў Паскробка (пасярэдзіне); злева — старшыня конкурснай камісіі Збігнеў Будзынскі

Пераможцамі ў катэгорыі разьбы сталі аўтары сакральнай скульптуры. Першае месца за арыгінальны састаў скульптуры «Святая сям'я» і «Хрыстос Журботны» заняў Мікола Ягадніцкі.

— Карыстаючыся ліпай і бярозай, я стараюся выканаць арыгінальную скульптуру. Мая разьба, якой займаюся з 1970 года, гэта асобы ўзятыя са штодзённага жыцця і сакральныя постаці. Я рады, што сёлета і ў мінулых гадах займаў на аглядзе першыя месцы. Мае разныя працы прэзентую таксама на іншых конкурсах і выставах. Маёй падпорай з'яўляецца жонка Івона, якая прыбыла таксама на сённяшні агляд, — сказаў Мікола Ягадніцкі з Чыжоў.

Міхал Коц выканаў драўляныя каплічкі з барэльефамі.

— У гэтым годзе паставіў я на сакральную скульптуру і гэта дало другое месца, — заявіў Міхал Коц, якога разьба раней паказвалася ў Гайнаўскім белмузеі ў рамках прэзентацыі прац беларускіх мастакоў.

Трэцяе месца занялі Мікола Корх за скульптуры «Адпачынак» і «Жанчына з парасонам» ды Мечыслаў Дудзін за цікавае спалучэнне матэрыялаў у скульптурах «Нясмелая» і «Дзяўчына з касой». Вылучэнне атрымаў Сяргей Жэдзь за барэльеф «Коні». Усе ўдзельнікі агляду атрымалі дыпломы і буклеты са здымкамі ўзнагароджаных прац. Арганізаваннем мастацкай імпрэзы займаліся старэйшыя інструктары па справах мастацтва ГДК Анна Тарасюк і Зінаіда Якуць, а дапамагала ім кіраўнік мастацкага аддзялення дома культуры Ядвіга Лях-Кучкін.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# „Куды ні трапяць беларусы”
## або Сучасныя авантуры з жыцця беларуса з Падляшша

Герой мастацка-дакументальнай, аўтабіяграфічнай аповесці „Мая Камчатка” белавежскага аўтара Віктара Стахвюка, як і наогул кніга „Пакуль змеркне дзень”, куды яна ўвайшла, натура актыўная, дзейсная, авантурная. У лепшым значэнні гэтага слова. Бо апантаны прагай пазнання новага, далёкага. Асабліва вабіць яго водная, марская стыхія. А яшчэ — сваё, роднае, беларускае. Усё гэта паяднoўваецца ў аповесці, раскрывае цікавы характар нашага сучасніка.

На самым пачатку твора аўтар знаёміць з „выходнымі дадзенымі” пачатковага сюжэтнага дзеяння: Мінск, 1993. Своеасаблівая прадмова з традыцыйным зачынам: „Усё пачалося раней” вяртае ў тое „раней” — лета, 1990, Белавежская пушча. Сказ, які выяўляе рух, прадказвае насычаны дзеяннем сюжэт. У гэты памятны час спробы беларускага Адраджэння герой выступае актыўным удзельнікам нацыянальнага руху. Адным з тых, хто не быў на вяршыні падзеяў, але выконваў вельмі адказную ролю, ускладваў на сябе абавязкі арганізацыйнага плану. І выконваў іх. Размова ідзе пра першую сустрэчу дзеячаў Беларускага народнага фронту з прадстаўнікамі беларускай дыяспары розных краін: „Большасць арганізацыйных абавязкаў была даручана мне, як каардынатару Краёвай управы Бларускага Дэмакратычнага Аб'яднання, таму ў мяне не было шмат магчымасцей спакойна прысутнічаць на пасяджэннях”. Стан спакою, наогул, не характэрны яму. Навошта аўтару, каб распавесці пра сваю вандроўку на Далёкі Усход, спатрэбілася пачаць аж так здалёку? Адказ зразумелы. Бо толькі дзякуючы тым лёсаносным для многіх народаў падзеям, што адбыліся на пачатку 90-х гадоў, менавіта так, а не інакш пакіраваўся і лёс самога героя, і дзейнасць фірмы „Белмора-1”, і гістарычны для Беларусі момант станаўлення яе як марское дзяржавы, чый карабель „Гайдук” плаваў па многіх марскіх абшарах. Ужо ў назве фірмы чытаецца надзея на будучае. Гэта ж толькі пачатак, паўстануць яшчэ і „Белмора-2”, і -3, і далей-далей. Мары ў тых часах у многіх суайчыннікаў былі грандыёзнымі.

Асноўны сюжэт твора мае праўдзівы прыгодніцка-авантурны характар. Канешне, звязаны з морам. Наогул, чалавек заўсёды мае тое, што вельмі хоча мець. Энергетыка жаданняў прыцягвае магчымасці дзеля іх рэалізацыі. На шляху з'яўляюцца тыя, хто падкажа, дапаможа. Так, у Мінску, быццам зусім выпадкова, герой чуе, што „шчыры камчацкі беларус шукае польскіх беларусаў, каб наладзіць супольную лоўлю ахоцкай рыбы і крабаў”. Гэты эпізод можна лічыць завязкай марскога сюжэта. Зразумела, таўталагічная гульня словам (камчацкі беларус — польскі беларус) не толькі цалкам адпавядае стылістыцы твора, але і падкрэслівае асноўны вектар жыцця героя — беларусацэнтрычны. Глыбокі патрыятызм, веданне і разуменне свае гісторыі, глыбокі боль з-за тых вялізных стратаў духоўных нацыянальных каштоўнасцей — гэтыя матывы праходзяць праз увесь твор.

Вось жа, на шляху героя з'яўляюцца новыя асобы, кожная з якіх на пэўным этапе адыграе сваю ролю. Жартаўліва-іранічны тон, абраны аўтарам ад пачатку, як нельга лепей стасуецца да авантурнасці зместу. Зразумела, калі размова ідзе пра святое — Беларусь, гэты пафас цалкам змяняецца.

Праз лёгкі гумар ды не надта глыбока схаваную іронію паўстаюць вобразы розных дзеячаў, што спрычыняюцца да справы. Першай у тым шэрагу — каларытная фігура Мікалая Мікалаевіча Санаева, што прэзентуе сябе не менш як гаспадаром усяе Камчаткі: „Высокі, вярзлісты, даўгатвары Мікалай Мікалаевіч быў зоркай кампаніі, які, пад абеднюю пляшачку, частаваў арыгінальным камчацкім крабам”. Імклівa, уладна з'явіўся ён на шляху развіцця падзеяў, і не менш імкліва знік. Як тое часта бывае ў авантурных сюжэтах. Важная роля ў характарыстыцы вобразаў адведзена мове. Рэплікі гэтага героя нешматслоўныя, выяўляюць чалавека з асяроддзя кіраўнічага, што прызвычаіўся да падпарадкавання, паслухмянасці і не трывае пярэчанняў. Мо таму яго так хутка „адсунулі” ад справы.

Авантурны характар сюжэту надае адпаведная лексіка. Да прыкладу, героі складаюць „планы паходу па залатое руно”. Залатая жыла, залатое руно пазней будуць ненавязліва паўтарацца неаднойчы. Наогул, казкавыя, фантастычныя матывы праступаюць даволі часта. У асобных рэпліках, характарыстыках. І нават тады, калі аповед ідзе пра звычайныя дзелавыя сустрэчы. Часцей з выразным гумарыстычным падтэкстам. Напрыклад, сакратарка міністра не проста прыгожая, а „як быццам з казкі Клінтана”. Нагадаю, гэта быў час, калі на паверхню выйшлі авантурна-любоўныя сюжэты з жыцця тагачаснага амерыканскага прэзідэнта.

Атмасфера, у якой вырашаліся сур'ёзныя дзелавыя справы, ці гэта Мінск, ці Варшава, ці Гродна, ці Далёкі Усход, усюды мела той жа антураж: рэстараны, багатыя сталы, у асартыменце якіх пераважалі марскія стравы. Зразумела, што паперы — гэты абавязковы рухавік кожнае справы, ствараліся і падпісваліся ва ўладных кабінетах, канторах, міністэрствах.

Праўдзівым марскім воўкам выступае міністр транспарту і марской гаспадаркі Польшчы Збышак Сулятыцкі, які нямала дапамог у вырашэнні справы. У гэтай асобе прываблівае не толькі дзелавая хватка, але і тое, што, пірасеўшы ў немалое кіраўнічае крэсла, ён не стаў папяровай душой, казённым кручкатворцам. Аўтар увесь час падкрэслівае сувязь міністра з колішняй марской працай, што праступае ў ягоных паводзінах: „Мужык быў мараком, і, відаць, міністэрыяльнае крэсла не надта змяніла ягоныя прывычкі”, „па-матроску сціснуў руку”. Гэта характарызуе і аўтара-наратара, ягоную назіральнасць, уменне рабіць слушныя высновы.




Сюжэт пошуку „залатога руна”, як і належыць, развіваецца дынамічна. Напачатку ўсё ідзе надзвычай гладка. У героя нават з'яўляецца магчымасць выбіраць партнёраў. Цікава характарызуе яго крытэр, які стаўся вызначальным у гэтым выбары: на карысць маладзейшага. Бо маладосць, не абцяжараная досведам паразаў, стратаў, не страціла яшчэ рамантычнага запалу, здольная на эксперымент, не мае страху перад невядомым.

Водная, дакладней, марская стыхія, настолькі блізкая пісьменніку, так ужылася ў яго героя, што ён пачынае „думаць морам”, а гэта ў сваю чаргу натуральна пераходзіць у лексіку. Так, замест заштампаванага „шмат іншых” чытаем „мора іншых”, што мае цалкам іншую афарбоўку. Ці такая слоўная пярліна, як „у бяздонным куфры зайздрасці”, што семантычна скіроўвае да марскіх глыбіняў. Пра комтурскі дух беларуса-лацінніка, чые эмоцыі зашкальваюць у ідэйнай барацьбе, пісьменнік заўяляе: „Выбухае гейзерамі ваяўнічай непрымірымасці”. Нават фразеалогія марская: „не на той хвалі”.

Аўтар выступае неблагім знаўцам цікавай прыроды літаратуры. А жыццё, як вядома, часта паўстае як праўдзівы літаратурны твор. Так, аповеды кампаньёна „пра марскія прыгоды і партовыя завірухі” ён успрымае як „фантастычныя, чысцейшай вады „эксклюзівы” з першай рукі. Быццам бы перадаваў гатовыя сцэнарыі для фільмаў. Во, бяры і запісвай, і раман гатовы”. Ды і сам ён мае пра што распавесці: „пра падводныя „трылеры” са свайго жыцця, якія здараліся падчас пошукаў утопленікаў або экстрэмальных акцыяў валадзаза”.

Поспех, які быў дасягнуты ў дзейнасці фірмы „Белмора-1”, не можа не захапляць. Колькі гонару ў маналогах героя! Цалкам апраўдана: „Вось першы ў гісторыі Беларусі яе зарэгістраваны ў міжнародных рэестрах карабель, горда стаяў пад старажытным сцягам, на якім светлымі блікамі зайгралі промні ўзыходзячага сонца”. Гэта было сонца надзеі, якое таксама згасае. Наш герой — вялікі аптыміст. Справа, якою ён займаўся, прывабляла не столькі магчымасцю знайсці тое залатое руно, колькі дадавала гонару яму, беларусу. Гонару за тое, што здзейсніў. Калі аўтар піша: „І не важна, што станецца пасля”, мы, безумоўна, верым яму. Але і не верым. Бо яшчэ як важна! Пісьменнік пераскоквае праз час, каб расказаць, што ж адбылося пасля. Не расказаць, а лаканічна пераказаць адзін эпізод, які пра вельмі многае сведчыць. Дыялог між ім і віцэ-прэм'ерам Беларусі ўспрымаецца як невялікі драматычны абразок, дзе за гумарыстычна-іранічным зместам насамрэч хаваецца вялікая скруха, боль. Гэта найлепей выказана ў знакамітым савецкім фільме „За дзяржаву крыўдна”. Безумоўна, крыўдна. Бо тое, што ёсць святым для нашага героя, для высокапастаўленага чыноўніка чужое, непрымальнае, а нат варожае. Наогул, суразмоўцы знаходзяцца па розных баках успрыняцця чалавечых, грамадскіх, нацыянальных каштоўнасцей. Што падкрэсліваецца і рознасцю іх моў.

„Хтосьці, прадстаўляючы яму мяне, сказаў:

— Гэта сузаснавальнік беларускага акіянскага флоту.

— *Знаем*! — сказаў Русак і звярнуўся да мяне: — *А под каким флагом плавает ваш корабль*?

— Беларускім. Бел-чырвона-белым.

— *Значит, это не белорусский флаг*.

І я ўсё *понял*”.

Усё зразумела і чытачу. Вылучаныя аўтарам рэплікі афіцыйнае асобы, якая агучвае выключна афіцыйную думку, выказаныя на небеларускай мове, але з прэтэнзіяй на ісціну ў апошняй інстанцыі.

Ён зразумеў, што гэтай уладзе, якая ж лічыць сябе беларускай, непатрэбна ні беларуская гісторыя, ні нашы сімвалы, ні, зрэшты, гонар мець марскі флот.

А вось іншы чыноўнік, з іншага краю зямлі. Губернатар Петрапаўлаўска-Камчацкага. „Ісцінно-русскій” патрыёт. Ягоная вялікадзяржаўная рыторыка, недарэчныя, здавалася б, памкненні вярнуць рускія землі могуць выклікаць усмешку, але на фоне таго, што адбываецца зараз, выглядаюць вельмі злавесна. Велізарная карта над галавою гаспадара кабінета прыцягнула ўвагу:

— *Господин губернатор, карта, которая висит над вами, это, кажется, не Камчатка?*

— *Нет, конечно, это Аляска.*

— *Но ведь Аляска американская!?*

— *Пока. Это истинно русская земля и мы её вернём родине*, — упэўнена сказаў губернатар. Падняў чарку і прамовіў:

— *За русскую Аляску! Чтобы поскорее вернулась к родине!*

Кульмінацыя марскога сюжэта — сустрэча з акіянам. Аповед, да краю насычаны эмоцыямі, уражвае, здзіўляе, захапляе. Аўтару ўдалося перадаць сваё незвычайнае душэўнае ўзрушэнне. І не дзіва: споўнілася ўрэшце тое, да чаго імкнуўся ўсё свядомае жыццё. Сустрэча гэтая не была запланаванай. Прапанова выйсці на бераг Ціхага акіяна паўстала нечакана. Сітуацыя зразумелая: „Хмель спрыяў кожнай авантуры”. То і была авантура, якая магла выліцца ў кошт самога жыцця. У раздзеле „Ціхі акіян” натуральна спалучаюцца і цалкам прагматычныя развагі пра закінутую гаспадарку гэтага ўскрайку зямлі, і праўдзівы малітоўны экстаз, калі душа вандроўніка адгукнулася на покліч акіяна. Ён вырастае да такое велічы, што далей ужо ўспрымаецца героем як Акіян. Менавіта так, з вялікай літары: „Глыбіннай вібрацыяй разгараўся і шчымеў у грудзях кліч акіяна. І калі чарговая хваля ўварвалася і разлілася па пляжы сцюдзёнай вадой, марозячы ногі, я прысеў і, змачыўшы далоні, прывітаўся з Акіянам. Імпульс радасці, які пранікнуў у маё цела і разліўся цеплынёю ў глыбіні душы, у адну хвіліну вышугнуў навонкі, апускаючыся ў яго нетры”. Цэлая віхура пачуццяў. Штосьці невыказнае, першароднае ўзнікае ў душы, не адпускае, патрабуе выйсця, дзеяння. І гэтае дзеянне доўга чакаць не прымушае: услед за імпульсам радасці апускаецца ў нетры акіяна і сам герой. Неабачліва, смяротна рызыкуючы. Бясспрэчна. Але хіба можна ўявіць сабе, што ён, які мроіў пра Акіян, дабраўся да яго і проста сыдзе, толькі прагуляўшыся, толькі палюбаваўшыся? Гэта парушыла б логіку развіцця сюжэта, разбурыла б цэласнасць, мэтанакіраванасць асобы, урэшце, значна прытушыла б авантурны дух усяго твора. Пра тое, як ён цудам выжыў, як адчайна, смела змагаўся з акіянам, чытаем з хваляваннем. Ды ні на імгненне не сумняваемся: ён пераможа. Не, не Акіян, зразумела.

Сузіранне красы суровай велічнай прыроды Сібіры, Магаданскага краю саступае месца развагам пра сталінскія часы. Гэты тэкст стылёва вылучаецца ў творы сваёй публіцыстычнай завостранасцю. Размова ідзе пра час, „калі абдурманілі неверагоднымі ілгунствамі стомленыя вайной народы ды, выконваючы загадзя прадуманы план загавору, схапілі ўладу — крутанулі жорны дэманічнага тэрору”. Трагічныя падзеі ва ўсёй савецкай імперыі ўспрымаюцца праз асабістыя боль, страты крэўных: дзядулі, роднага бабулінага брата.

Не ўсё ў мове твора цалкам задавальняе. Так, заміж утопленік правільна тапелец, студзёны — сцюдзёны, двойчы, праз старонку „эксплуатуецца” метафара „пакрытых лішаямі аблезлых тынкаў” і інш.

Герой кнігі застаецца такім — прагным да жыцця ва ўсіх ягоных праявах. Прагны новага, нязведанага, глыбіннага. Прагу такую яскрава і здольны задаволіць акіян. Назва кнігі „Пакуль змеркне дзень”, што да першае аповесці, успрымаецца як дэвіз. Жыць, марыць, адкрываць глыбіні. Да апошняй хвіліны, адведзенай лёсам.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Каб Беларусь гаварыла па-беларуску!

## Інтэрв'ю з Веранікай Кардзюкевіч, лаўрэаткай Агульнапольскага конкурсу „Дэбют", вучаніцай Непублічнай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.





Вераніка Кардзюкевіч з сябрамі з НШ св.св. К. і М., разам з настаўніцай Віялетай Нікіцюк-Пэркоўскай

**Зорка:** — *Як адчувае сябе лаўрэатка Агульнапольскага конкурсу „Дэбют"?*

**Вераніка Кардзюкевіч:** — Я вельмі цешуся, мая сям'я — таксама. Узнагарода ў конкурсе гэта такія дзверы ў сапраўднае пісанне. Я хацела б калісьці напісаць кніжку або сапраўдныя вершы...

**З.:** — *Твая кніжка будзе...?*

**В. К.:** — Па-беларуску!

**З.:** — *Твае вершы гэта палымяная, чыстая любоў да Беларусі. Вераніка, часта думаеш пра Беларусь?*

**В. К.:** — Беларусь займае асобнае месца ў маім сэрцы і думках. Я сама некалькі разоў была ў Рэспубліцы Беларусь. Падарожжы яшчэ больш заставілі мяне палюбіць Беларусь. Гэта такая Маці. А ўсё пачалося з таго, што ў мяне беларускія карані. Мой бацька — беларус і я ў хаце размаўляю з ім па-беларуску. Таксама па-беларуску размаўляю з бабуляй і дзядулем з Грабоўкі.

**З.:** — *Раней Ты кожны дзень пісала дзённік па-беларуску. Твая настаўніца рассакрэціла мне, што маеш намер весці свой блог па-беларуску...*

**В. К.:** — Так, хачу!

**З.:** — *Ужо ведаеш, пра што будзеш пісаць?*

**В. К.:** — Напэўна буду падымаць патрыятычныя тэмы. Я хачу, каб Беларусь зноў магла загаварыць па-беларуску. Для мяне гэта вельмі важная справа, таму што я гавару з сям'ёй па-беларуску, а калі еду ў Рэспубліку Беларусь там не ўсе хочуць адказваць мне на роднай мове.

**З.:** — *З Тваёй хаты ажно трох удзельнікаў конкурсу „Дэбют". Удзел прынялі яшчэ сястра Зузя і брат Ігар. Вы дапамагалі сабе пісаць творы, ці спаборнічалі між сабой?*

**В. К.:** — Зузя ўсё напісала самастойна. У яе атрымаліся файныя вершы. А Ігар не надта хацеў ангажавацца, я крышку яму падказвала як напісаць апавяданне.

**З.:** — *Як файна! А скажы яшчэ, Вераніка, як будзеш сустракаць Каляды?*

**В. К.:** — На Каляды прыязджаюць да нас бабуля з дзядулем. Мы ў першы дзень Раства збіраемся да бабулі і дзеда ў Грабоўку, дзе будзем разам калядаваць па-беларуску.

**З.:** — *Тады зычым здаровых і прыгожых Каляд і шмат падарункаў ад Санта-Клаўса!*

**Фота Міры ЛУКШЫ**

---

**Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ**
Грабоўка, НШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, VI клас

### Малітва дачкі Беларусі

Вечарам іду да акна. У руцэ трымаю свечку. Іду маліцца. Іду пагаварыць з Богам. Я малюся за воінаў, якія ваююць і гінуць за маю Бацькаўшчыну. Малюся за маю зямлю, прыроду. Малюся за тыя ж рэкі, азёры, за шум лесу кожнага дня. Малюся за той бел-чырвона-белы сцяг, за Пагоню. Малюся і ніколі не перастану верыць у светлае заўтра маёй Маці-Беларусі. Амін.

### Сэрца

Сэрца — вялікі горад,
Жыццё яго адчуваю кожны дзень,
У ім жыве мая сям'я, сябры, і Бог.
Перад сном я чую іх думкі, чую іх крык,
Я пра іх забыла,
у мяне не хапае для іх часу.

Ад сэрца бягуць вены,
Яны пераносяць маю родную кроў,
Ад крыві не ўцячэш.

### Маці

Ты Маці мая родная, Маці мая каханая.
Ты мяне сцеражэш з першай хвіліны
майго жыцця.
Пад крылом Тваім знаходжу суцішэнне.

Я Цябе люблю, дарагая мая,
Табе веру, за Цябе малюся,
Я з Табой на ўсе часы.
Родная Ты мая Беларусь!

---

**Загадкі з роднай хаткі**

## Увага, конкурс!!! (№ 01-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 18 студзеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
З двара
пабегла гара.
— Ці надоўга? —
спытаемся мы.
— Да новай зімы.
С...

**2.**
Моўчкі ідзе,
Моўчкі ўпадзе,
Моўчкі ляжыць,
А памрэ — пабяжыць.
С...

(У. Мацвеенка)

**3.**
Дрыжыць,
каб толькі жыць!
Каб голад-холад
перажыць!
Няма гаротніку падмогі,
ад ворага ратуюць ногі.
З...

(Н. А. Старажава)

Адказ на загадкі № 49-14: елка, зіма, арэх. Узнагароды, кніжкі Эвы Суса „Снежны чалавек" (на беларускай мове) выйгралі Тымэк Петручук і Міхась Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!

# Як святкуем Каляды

**Бартэк:** — Калі прыязджаюць мае браты з жонкамі і з дзяцьмі, у хаце пачынаецца жах. Дзеці ўлазяць на майго бацьку як на дрэва. Браты ўцякаюць ад жонак на другі паверх і іграюць на камп'ютары. Усе жанчыны шыкуюць калядны стол. Калі на небе паявіцца першая зорка, усе сядаюць за стол, толькі цяжка зрабіць гэта майму бацьку, бо ўнукі зрабілі з яго пляцоўку для гульняў.

**Эля:** — Ёлка ў нашай хаце мусіць быць з лесу, заўсёды чакаем бабулю і дзядулю, бо яны прывозяць нам сюрпрызы.

**Давід:** — Люблю той момант, калі бацька і дзядуля гавораць: „Каб на другі год дажкалі".

**Рафал Н.:** — Я люблю бабуліны піражкі і *маковец* маёй мамы, ён найлепшы на свеце (гэта ведаюць усе знаёмыя).

**Магда П.:** — Ёлку штогод аздабляем разам з сястрой.

**Наталля Б.:** — Калі з кухні даходзяць розныя пахі, я не магу дачакацца вячэры. Мы заўсёды едзем да бабулі. Там вельмі прыемная атмасфера, бо ў нас вялікая сям'я.

**Вікі і Карнелія:** — Мы многа дапамагаем маме ў падрыхтоўцы да свята. З прыемнасцю аздабляем ёлкі, якіх у нас тры — вялікая ў салоне і малыя ў нашых пакоях. У нас падарункі прыносіць Дзед Мароз.

**Ася:** — Кожны сямейнік перад святам мае свае заданні. Калі прыедуць госці, атмасфера становіцца ўзнёслай. Заўсёды прыязджаюць таксама дзеці і яны надаюць святу сэнс — смяюцца, бушуюць, цешаць сваімі размовамі.

**Наталля В.:** — На стале заўсёды белы абрус, а пад ім — сена, якое потым з'ядае наш трус. У час вячэры ўключаем Радыё Рацыя і слухаем калядкі.

**Паўліна:** — На Усяночную едзем на балота да Адрынок, дзе службу адпраўляе а. Гаўрыіл. Мы застаемся там амаль да раніцы. На абедзе ў нашай хаце збіраецца каля трыццаці чалавек. Дзеці гуляюць і не звяртаюць увагі на тое, што нядаўна тут быў парадак.

**Вучні з Нараўкі**

# ЧАМУ ў ЗАЙЦА РАССЕЧАНАЯ ГУБА?

(эстонская казка)

Сабраліся аднаго разу зайцы ля высокай сасны і найстарэйшы ў грамадзе кажа:

— Мілыя мае! Цяжка нам, зайцам, жыць на свеце. Усіх мы баімся, а нас нават камар не злякаецца. Абрыдла такое жыццё. Давайце, лепш пойдзем да мора і патопімся.

Паслухалі зайцы і пабеглі да мора тапіцца.

Ля мора пасвіўся вялікі статак авечак. Пабачыла адна авечка столькі зайцоў, спалохалася і давай уцякаць. І цэлы статак за ёй паляцеў. Бягуць авечкі невядома куды, не ведаючы што з імі здарылася. А за імі бягуць сабакі, брэшуць. Пастухі крычаць, каламі шпурляюць. Шум, крык, гам!

Усё гэта рассмяшыла зайцоў. Прыселі яны на задніх лапах і пачалі смяяцца. Ну так ужо шчыра і доўга смяяліся, што аж губы ад смеху ў іх лопнулі.

— Дык не так ужо цяжка жыць нам на гэтым свеце, — сказаў найстарэйшы. — Мы моцныя, калі ў адной грамадзе!

Кінулі зайцы думку, каб тапіцца ў моры. Аднак з тых часоў, на памятку здарэння, у іх засталася рассечаная губа.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

*Уршуля МАРЧУК*
*Гімназія ў Нараўцы*

## Зіма

***Прыйшла да нас зіма,***
***птушкі даўно адляцелі,***
***звяры ўжо спяць.***
***А на дварэ холадна,***
***сыпле пушысты снег.***
***Людзі сядзяць у хаце,***
***а навокал белы край.***

# Вершы Віктара Шведа

## Перасцярогі

Дзедка ўнуку тлумачыць:
— Трэба быць паслядоўным.
— А што гэта,
дзедка, значыць?
— Каб заўсёды быць слоўным.

Яшчэ перасцярога:
Быць заўжды асцярожным
Не абяцаць каб нічога,
Чаго споўніць не можна.

## Выйшаў з пасткі

На занятках у школе
Настаўнік пытае Колю:
— Што ты сказаць можаш
Аб золаце прыгожым?

— А чаму ж ты, Колька,
Сядзіш і думаеш толькі?
— Я чуў гэта сёлета,
Што маўчанне — золата.

## З агню ў полымя

— Чаму ты малыш
Пад дажджом стаіш?
Ты ж ужо, сынок,
Навылёт прамок.

— Захацела маці
Выкупаць у хаце,
А я наперакор
Ледзь уцёк на двор.

## Бацькоўскі сход

— Заўтра, як штогод,
Будзе бацькоўскі сход
Для вузкага кола.
— А што гэта, Мікола?

— Будзе нешта такое —
Настаўнік і нас двое.
І будзе яднання спроба
З маёй асобай.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 49:

Астра, як, памідор, калідор, пі, лан, ласун, стаж, га, мацак, на. Вяз, дом, палац, зала, Мінск, від, долар, стораж, пуга, ангіна.

Узнагароды, каляровыя празрыстыя маркеры, выйгралі **Вераніка Жох, Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Уля Марчук, Магда Пташынская, Алек Чарнецкі** з Нараўкі, **Клаўдзія Ніканчук, Томэк Петручук** з Нарвы, **Клаўдзія Сікорская, Паўліна Ліхань** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Mi | | Wigilia | Mag / Moralność | | | | | | |
| Ikra | | | | | Wzlot | Siłacz / Lok | | | Chińskie imię |
| | Konik | | Zabawy | | | | | Amper | |
| | | | | Zała-manie | | | | | |
| | | | Choinka | | | | | Si (nuta) | |
| | Skrzy-dlaty | | | | | | | | |
| | | | | | | | Jar | | |

№ 1

**У другой групе ў паэзіі перамог Багдан Дудко з Цісоўкі Міхалоўскай гміны. Развітальна прыняў удзел у „Дэбюце” паколькі выйшла ўжо яго кніга.**




**Багдан ДУДКО**

* * *
пагас камп'ютар так звычайна
а я хацеў яшчэ табе напісаць
што тут усё парастае лесам
была пушча
і зноў вяртаецца пушча
не буду запісваць сцяны
вісіць на ёй партрэт Сакрата
з папяросай у вуснах
быццам бы гэта карабін
дык можа дазволіш мне
запісаць тваю спіну
слядамі гэтай звяроў і раслін сталіцы
пасля буду іх чытаць
доўга
аж прачытаю ўсю пушчу
і ваколіцы

* * *
а то ж разагналіся
ў гэтым жыцці
сваімі машынамі
справамі
абавязкамі
не бачаць хто стаіць
на баку
ані хто ляжыць на абочыне
цяжка іх спыніць
хаця можа няма чаго
можа гэтая адзіная
хвіліна
іх спыніць

уся рэшта гэта нішто

* * *
сяджу на лугу
ёсць жаўрукі буслы
трава ўгінаецца і сонца
елкі непадалёк
берасцянкі спяваюць і
шчыглы
калышацца жоўтая
лотаць

гэта столькі, хопіць

уся рэшта нішто

* * *
халерна люблю падарожжы
асабліва тыя пад раніцу
калі рухаюся
з мясцовасці, скажам, Нарва
усё ў тумане
рынак, дрэвы, людзі, думкі
халерна люблю тыя ранкі на прыпынках
і не маю ў азадку малых мястэчак
маю ў азадку вялікія гарады
шашы, аэрапорты, маркеты

* * *
калі ў поўнач
халодны вецер
з цёмнай бездані
выскачыць
калі завые ён
ці чарцяка, ці сабака
загублены
пераскочыць
рэкі, яры
скочыць
наверх
верх той
перастворыць
ад страху
ў гнеў
з прасторы
адкрые свае блакітныя вочы

так гэта я

# Межы «Бязмежжа»

**Якія ўмовы патрэбныя для існавання літаратуры? Пытанне простае, адказ ужо не. Вось беларуская, перш за ўсё мастацкая, літаратура, мабыць, неўзабаве будзе існаваць напалову. Маўляў, будуць яе стваральнікі, не будзе карыстальнікаў. Барыс Пятровіч Сачанка — старшыня незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў на апошнім семінары «Бязмежжа» прыводзіў трывожныя даныя.**

**На працягу апошніх гадоў рэзка панізіўся лік чытачоў у Беларусі. Адсотак чытачоў беларускага слова паніжаецца намнога больш рэзка.**

**І гэта калі? Менавіта цяпер, калі друкуецца шмат вартасных выданняў, калі практычна няма цэнзуры. Калі побач афіцыйнай, дзяржаўнай, існуе і добра трымаецца беларуская незалежная літаратура.**

На працягу трох дзён, з 12 па 14 снежня 2014 г., на літаратурнай сустрэчы пабывала каля трыццаці творцаў беларускай літаратуры, музыкі, тэле- і радыёрэпартажу. Паколькі сучасная беларуская літаратура заўсёды на «Бязмежжы» была дамінантай, дык ад нейкага часу арганізатары далучаюць паступова музыку (бардаў), фільм, а з мінулага года і радыёрэпартажы. Гэта ў значнай ступені пашырыла ўвесь гарызонт беларускай культуры прысутнай на семінары.

А паколькі ад самога пачатку да канца «Бязмежжа» адзіным не стваральнікам, а хутчэй атрымальнікам, інакш чытачом літаратуры быў я, дык дазвольце, што засяроджуся толькі на некаторых пытаннях і постацях.

Найперш возьмем літаратуру і творчасць нашых падляшскіх паэтаў Андрэя Сцепанюка і Касі Сянкевіч.

Андрэй, паэт з 50-гадовым жыццёвым стажам, дагэтуль вядомы быў з... аднаго верша «Не плач Айчына, вялікі Бог магіл Тваіх палечыць раны...», з верша 25-гадовай даўнасці, на словы якога спяваецца аўтарская песня. На сёлетнім «Бязмежжы» Сцепанюк прадставіў дагэтуль непублікаваныя новыя творы.

*...вершы — гэта толькі сон,*
*з якога больш ніколі не абуджуся*

Уражвае, прынамсі мяне, трапнасць метафары і нейкі трывожны смутак, што нешта нам мо не ўдасца. Так сон, але які прыемны.

Іншыя вершы Андрэя, як хаця б *Я іду да цябе...* гэта свайго роду маніфест пройдзенага, але ці здзейсненага. Напісанага і ненапісанага, сказанага і недасказанага. Нейкая боязь, што нехта можа нас не чакаць...

*Я іду да Цябе словам....*
*як дзіця і як бабуля...*
*Ці Ты чакаеш, ці выйдзеш, пацалуеш?*

Андрэй, яшчэ маем час.

У сваю чаргу Кася — усяго толькі, ці аж — студэнтка мастацкага факультэта, аўтарка двух зборнікаў паэзіі «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак».

Апошні зборнік выдадзены менскім выдавецтвам «Кнігазбор» у серыі «Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў». А гэта само сабою нешта абазначае і абавязвае. Вось што менскія выдаўцы пішуць пра кнігу Касі. «(...) знаёміць (яна) чытача з тонкім светам шчырых дзявочых пачуццяў. Вечныя тэмы кахання, веры, пошуку свайго месца ў сусвеце напоўніцу раскрываюцца ў пранізлівых маналогах-споведзях аўтаркі». Што праўда, сам Барыс Пятровіч казаў, што час ад часу трэба было нешта паправіць, нешта «збеларушчыць», але факт застаецца фактам.

Удзельнікі семінара як першыя атрымалі згаданы зборнік Касі. І, як стала вядома, рэцэнзію на «Гарбату з незабудак» збіраецца пісаць сам... Леанід Галубовіч. Цалкам нядаўна памастацку аформіла яна зборнік паэзіі нашай Міры Лукшы. А мастацкі факультэт, які неўзабаве закончыць Кася на Люблінскім універсітэце, спадзяюся, дазволіць ёй адшукаць найбольш правільны далейшы шлях. Ці пойдзе шляхам мастацтва, ці літаратуры, ці спалучыць абодва таленты? Убачым неўзабаве. Галоўнае, каб яго не растраціла, як гэта часта бывае. Я ў Касю веру.

Фота Міры ЛУКШЫ


Міша Андрасюк


Кася Сянкевіч


Андрэй Сцепанюк

І яшчэ пару слоў пра радыёрэпартажы на семінары «Бязмежжа». Вельмі цікавай задумай арганізатараў было прадставіць два пункты гледжання на адну тэму. Тэмай быў лёс вёскі Бобінка, падзеленай дзяржаўнай польска-беларускай мяжою, а пункты гледжання прадставілі аўтары рэпартажаў — Алеся Лугавая з беларускага і Міша Андрасюк з польскага боку мяжы.

Што супольнага засталося ў адной і другой частках вёскі, а што рознага пасля 70-ці гадоў шчыльнай мяжы. Гэта ўжо амаль тры пакаленні. Аднак памяць яшчэ жывая. Яшчэ абапал мяжы жывуць родныя. Ужо не брат, а дзядзя, і не дваюрадны, а хутчэй траюрадны, але сваяк. Звычаі мяняе час; у нас усё больш польскіх элементаў, а ў тых бобінцаў (бобінчукоў) — савецка-беларускіх.

Алеся Лугавая ў сваім рэпартажы сумна канстатуе: *У Бобінцы людзей мала, а п'яніцаў многа.*

І там, і тут вёска пусцее, на месца аўтахтонаў прыехалі і прыязджаюць высяленцы з іншых савецкіх рэспублік, дзе ім тут давалі жытло. Бобінку на польскім баку — а гэта на прыгожай ускраіне Белавежскай пушчы, пачынаюць засяляць палякі з цэнтра краіны. Так ці інакш вёска на мяжы мяняе свой аўтэнтычны каларыт. А мясцовыя? Што ж, старэчы ўжо.

*Во*, — кажуць героі перадачы Андрасюка, — *дзеці суседаў у Галандыі ці дзе. Там падаліся. А мы то ўжо старыя. Але каб не было мяжы, то мо і на ўсход паехалі б, у Менск і далей у Маскву...*

Але і адны і другія хваляць Лукашэнку:

*Лётае ён на верталёце і даглядае як гаспадарыцца, нават непадалёк пералятаў*, — кажуць польскія бобінцы (бобінчукі). І гэта не толькі сантымент да сваіх, «рускіх», але і ўплыў беларускага тэлебачання. Хаця нашыя, расхваляючы пад нябёсы «беларускі дабрабыт», усё-такі не хацелі б там жыць.

Абодва рэпартажы склалі на семінары «Бязмежжа» адну цэласць. Як і адной цэласцю былі ўдзельнікі семінара — так беларусы з Беларусі, як і з Польшчы.

Мне неадночы давялося ўдзельнічаць у сесіях-слуханнях рэпартажаў. І калі рэпартаж быў нецікавы, нудны дык і слухачы пасля пару хвілін пераставалі ім цікавіцца. Размаўлялі, выходзілі. А на нашым семінары было наадварот. Сачылі за кожнай фразай, а на канец узнагародзілі воплескамі.

Таму сапраўды трапнай аказалася задума арганізатараў «Бязмежжа», каб разглядаць на ім не толькі літаратуру, як такую, але пашыраць семінар на фільм, рэпартаж ці музыку.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**

# У вярхоўях Ліўца



Гісторыя Польшчы

Упалове снежня змяніўся расклад паяздоў на нашых чыгунках. Зноў з Беластока адпраўляецца ранішні цягнік у Чаромху, дзе можна перасесці на поезд у напрамку Седльцаў. Вось менавіта туды і падаўся я, бо невядома ці чарговая змена раскладу цягнікоў і зусім не скасуе такой магчымасці.

Невялічкі рэйкавы аўтобус з Беластока ў Чаромху напоўніўся амаль камплектам пасажыраў. У іх ліку было крыху вучняў, якія адпраўляліся да пазабеластоцкіх сем'яў правесці там святочна-навагодні перапынак. У Чаромсе перасадка з „падляшскага" поезда на значна большы „мазавецкі". У суседнім купэ пара мо пяцідзесяцігодкаў наракала на ліквідацыю чыгуначных курсаў, не надта аглядаючыся на маналікасць пасажыраў у салоне. Ды і хто ж мае цяпер ездзіць, калі палі, якія калісь абрабляла навакольнае насельніцтва, зараз пазарасталі лесам. На прыпынку Новы Нурэц частку перонаў зрылі дзікі, а дзе-нідзе нават пачынаюць узрыхляць насып.

Дэмаграфічны працэс адлюстроўвае ў нас выгляд чыгуначных прыпынкаў. У Райску, Падбеллі, Рыгораўцах, Суховольцах і Баравіках пачакальняў ужо зусім няма. У Леўках, Кляшчэлях, Новым Нурцы і „старым" Нурцы пачакальні наглуха забіты. А як за Бугам? У Сарнаках, Плятэраве, Нямойках і Мордах — здаецца — вельмі падобна. На прыпынку ў Паткаве пастаўлена паветка, а ў Цярпігажы, Мордах-Месце і Кшымошах „пачакальні" ў поўным сімбіёзе з найбольш актуальным надвор'ем.

Злажу з поезда на апошнім прыпынку, у Кшымошах, замахваючыся на маршрут цераз Сток-Рускі і Чаламыі ў Морды. Недалёка шаша з Сямятыч у Седльцы, а да яе дакранулася вёска Вычулкі. Пры шашы высокі драўляны крыж, а пад ім брацкая магіла расійскіх салдат. На жалезнай агароджы польская таблічка, што там спачывае дванаццаць расейцаў, загінулых у 1920 годзе. Але зараз за агароджай валун з нямецкім надпісам пра дванаццаць невядомых рускіх. І вазьмі здагадайся, ці там адно астанкі дванаццаці ваякаў, пахаваных немцамі яшчэ ў ходзе вайны, мабыць у 1915 годзе, ці іх у два разы больш: па дванаццаць ад немцаў і ад палякаў...

Вёска Вычулкі распалажана край самых вярхоўяў ракі Лівец, якая калісь была гранічнай між гістарычнымі Падляшшам і Мазовіяй. Засяленне гэтых зямель адбывалася так з усходу, як і з захаду, пра што сведчаць двайныя назвы некаторых мясцовасцей, з якіх адны называліся „рускімі", а другія „ляцкімі". „Рускіх" назваў захавалася няшмат, бо пасля ўстанаўлення там польскай дзяржаўнасці тыя мясцовасці „спаланізаваліся", напрыклад Руская Воля каля Міжырэча-Падляшскага стала Польскай Воляй, а Яблонна-Руская між Саколавам-Падляшскім і Драгічынам стала Яблоннай-Старой. Сваю гістарычную назву захаваў Сток-Рускі, што недалёка Вычулкаў; Сток-Ляцкі бліжэй Седльцаў.

Сток-Рускі выглядае нават крыху падобна да вёсак з праваберэжнага Падляшша. Ёсць там і драўляныя хаты, і даволі памяркоўныя мураванкі. Некаторыя памяшканні пустуюць. Мураваны будынак былой школы запушчаны бадай яшчэ больш, чым такія ж аб'екты ў нас. І крама зусім запушчаная. А асфальтоўка — так з боку Вычулкаў, як і з боку гмінных Мордаў — такая, што калі б яе пабачыў наш Янка Целушэцкі, то напісаў бы цэлую пра яе эпапею.

Са Стока-Рускага думаў я падацца ў Чаламыі, парафіяльную зараз мясцовасць, дзе калісь была царква, а зараз на яе месцы касцёл. На карце пазначана туды простая дарога недзе з сярэдзіны вёскі, аднак на месцы, у Стоку-Рускім, я яе не абнародаваў. І так сабе ішоў я ўглядаючыся за ёю беспаспяхова, аж зайшоў у Морды. Сток-Рускі з'яўляецца даволі расцягнутай вёскай — каля двух кіламетраў, а ад яго задворкаў да задворкаў Мордаў будзе таксама каля двух кіламетраў. І хаця не ўдалося мне трапіць у Чаламыі, усё ж такі нейкая даніна гэтай мясцовасці належыцца.


Касцёл у Мордах

Вікіпедыя: „**Pierwotną cerkiew drewnianą z fundacji Jana Godlewskiego, starosty nurskiego, wzniesiono w 1706 r. jako unicką cerkiew św. Szymona Słupnika. W 1852 r. budynek spłonął, a w jego miejsce wzniesiono świątynię murowaną, dzięki właścicielowi Czołomyj i okolicznych dóbr, Janowi Zembrzuskiemu. W 1875 r., w czasie likwidacji resztek Kościoła greckokatolickiego w Kongresówce (likwidacja unickiej diecezji chełmskiej), władze rosyjskie przekształciły cerkiew na prawosławną. Od okresu rewindykacji świątynia pełni funkcję rzymskokatolickiego kościoła parafialnego. W 1918 r. przeprowadzono remont i dokonano rekoncyliacji, a w roku następnym erygowano parafię rzymskokatolicką**".

У 1840 годзе Чаламыйскі прыход налічваў 634 душы і быў адным з найлюднейшых у Саколаўскім уніяцкім дэканаце. Найбольш вернікаў было ў Саколаўскім прыходзе — 920, у Гродзіскім 670, у Гарадоцкім 436, у Шкопскім 327, у Варшаўскім 297, у Лысаўскім і Мордаўскім па 280, у Рогаўскім 270, у Галублянскім 264, у Сырочынскім 250, у Лазоўскім 165, у Савіцкім 95 і ў Чаканаўскім 18. У той час Сток-Рускі быў у Чаламыйскім прыходзе.

У Мордах таксама калісь была царква, але ад яе нічога не захавалася, а яе прыхаджане паступова перайшлі на каталіцкі абрад. Паспрыяла гэтаму, несумненна, узвядзенне ў Мордах касцёла. Сайт Сядлецкай дыяцэзіі: „**Pierwotny kościół wybudowany w 1408 r. przez Jana Koszyckiego, dziedzica majątku Mordy. Obecny kościół parafialny murowany, wybudowany w 1737 r. przez Baltazara Ciecierskiego, podczaszego drohiczyńskiego, konsekrowany w 1739 r. przez Bpa Andrzeja Załuskiego. Styl barokowy z domieszką neoklasycyzmu**". Цяпер у гэтай парафіі і Сток-Рускі.

Калісь-калісь чытаў я, што назва гарадка пайшла ад найдаўнейшых пасяленцаў, якія прывандравалі сюды аж з далёкай сённяшняй Мардовіі. Але мяне неяк чапляецца іншая думка: суседнія мясцовасці Чаламыі і Нямойкі атрымалі „гігіенічныя" назвы; магчыма, што і Морды ўзялі сваё найменне па гігіенічна-эстэтычных прадпасылках...

У мінулым мясцовасці паяўляюцца знатныя асабістасці, якіх, аднак, асабіста Морды не цікавілі. Вось у 1546 годзе ўласнікам мястэчка становіцца кароль Жыгімонт Аўгуст. Слоўнік Каралеўства Польскага: „**W 1552 r. Zygmunt August sprzedaje Mordy aktem w ruskim języku spisanym, Mikołajowi Radziwiłłowi, woj. wileńskiemu. Nowy nabywca usunął zaraz miejscowego proboszcza i na jego miejscu osadził kaznodzieję protestanckiego Szymona. W 1563 r. Stanisław Lutomierski, superintendent kościołów reformowanych, zwołuje do Mord synod, na który zjechała się znaczna liczba litewskich i podlaskich predykantów** [пратэстанцкіх прапаведнікаў], **lecz obrady nie utrwaliły pożądanej zgody między różnymi grupami. W 1571 r. Mikołaj Krzysztof Radziwiłł (syn wojewody) zamienił Mordy na dobra Świerzno, należące do Pawła Ciecierskiego. (...) Jeden z Ciecierskich zamienił w 1803 r. Mordy na Ciechanów, nabyty świeżo przez pruskiego radcę. Nowonabywca, otrzymawszy wysoką pożyczkę od banku berlińskiego, odstąpił dobra bankowi, przekładając gotówkę nad mozolne gospodarstwo. Od banku przeszły te dobra na własność króla pruskiego Fryderyka Wilhelma III, który je podarował swej córce, małżonce cesarza Mikołaja I. Stan strasznego opuszczenia samej siedziby i całego gospodarstwa był powodem sprzedaży tych dóbr Zembrzuskim, którzy odnowili pałac i podnieśli gospodarstwo**".

Гэты палац, пабудаваны ў пачатку XVIII стагоддзя, дачакаўся нашага часу, які можна ахарактарызаваць станам ***strasznego opuszczenia***, патрабуючым чарговага абнаўлення. Пры г.зв. камуне палац быў сядзібай мясцовага тэхнікума зялёных насаджэнняў. У 1978 годзе ўласнікам комплексу стала Вышэйшая агра-педагагічная школа ў Седльцах, аднак новы набытак аказаўся вучэльні непатрэбным і школа з ходам часу рашыла яго прадаць. У міжчасе з'явіліся спадкаемцы, якія адмаўлялі вучэльні правы ўласнасці аб'екта. І той слаўны аб'ект, якога ўласнікамі былі польскі, прускі і расійскі манархі, пад судовымі разбірацельствамі запушчаецца штораз больш...

Едучы ў падарожжа распланаваў я час між прыездам і ад'ездам, аднак асечка з наведаннем Чаламыяў падарыла мне шмат лішняга вольнага часу. Задумаў я заглянуць у тамашнюю бібліятэку, спадзяючыся даведацца там нечага больш пра наваколле Мордаў. Аднак мясцовы асяродак культуры, пры якім знаходзіцца бібліятэка, быў наглуха закрыты; была гэта субота. І вось тады наведала мяне страшэнна блюзнерчая думка: у Дзесяці запаведзях згадваецца пра шэсць рабочых дзён у тыдні. Але ж зараз, дзякуючы розным вынаходствам, удалося дабіцца пяцідзённага рабочага ды навучальнага тыдня. З'явіўся дадатковы дзень, якога Дзесяць запаведзей не прадбачылі. Адзін вольны дзень адводзіцца справам сакрум, а новы вольны дзень, мяркую нясмела, можна было б прысвяціць культуры, якая ж ад сакрум недалёка. Культурныя ўстановы працуюць наогул тады, калі людзі нечым занятыя, калі ім не надтавата займацца тых устаноў прапановай. Зараз субота з'яўляецца ў прынцыпе незагаспадараным днём; у Мордах нават касцёл быў закрыты...

Маючы вялікі лішак вольнага часу і не маючы куды падзецца, звалачыўся я на тамашнія могілкі, паглядзець прозвішчы пакойнікаў, пабачыць, што захавалася з першабытнага засялення тэрыторыі, што ў вярхоўях цячэння Ліўца. „Падляшскія" прозвішчы займаюць там каля трацiны ўсіх эпітафій. Франчук, Ільчук, Марчук, Стэфанюк, Якімюк, Матвяйчук, Галубец, Марчук, Тарасюк, Захарчук, Данільчук, Ваўрынюк, Петрук, Паўлюк, Ясюк, Марцінюк, Леўчук, Семянчук, Анджэйчук, Грыцюк, Каладзейчук, Лапацюк, Барысюк, Тымашук, Вальчук, Ярашук, Аграднічук, Садлюк, Захарчук, Хамалюк, а найбольш Яшчукоў і Кандрацюкоў. Але гэтыя прозвішчы толькі на могілках, у розных апрацоўках гісторыі мястэчка іх няма...

Вярнуся яшчэ раз у Морды. На задняй сцяне тамашняга цэнтра культуры размалявана сімвалічная гісторыя Польшчы. Уніз патрыятычныя подпісы. Найпершы, у пачатку гісторыі, па-лацінску, другі — папольску, а трэці, у завяршэнне гісторыі — па-англійску.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Прарочыя сны

У кожнага з нас бываюць сны. Спакойныя, нервовыя, прыгожыя і каляровыя. Часам лятаем як птушка, або зноў мчымся на аўтамашыне, хоць ніколі не мелі вадзіцельскіх правоў, ніколі не сядзелі за рулём. Раз хочам як найхутчэй прачнуцца, бо сон страшны, іншым разам хочацца прадоўжыць сненне — адчуваем сябе шчаслівымі, спакойнымі. Кажуць **„sen mara, Bóg wiara"**. Таму і не кожны верыць, што сон можа прадказаць нам нашу будучыню — якая будзе неўзабаве, ці пазнейшую, штосьці добрае ці трагічнае. Я прылічваю сябе да тых, якія вераць, што бываюць, хоць рэдка, сны, які „збываюцца". Не аднаму з нас прыйшло гэтага дасведчыць. А вось паслухайце...

Олька: „Сніцца мне, што я ляжу на ложку, а каля мяне якісьці хлопчык — дзіця. Тут з'яўляецца мая пакойная свякруха і просіць: „Падай мне праз галаву гэтага хлопчыка". Я падала. Устала раненька і кажу мужу, які збіраўся ісці ў суд як сведка: „Цябе, даражэнькі, пасадзяць у турму, глядзі, не наблытай!". Наблытаў, пасадзілі на год, прасядзеў паўгода. За нішто. Хлопчык — сімвал клопату, а нежывая свякроў — бяды, цярпенняў".

Вера: „Еду старым самаходам, на дамоўленае месца. На дварэ цемнавата, дарога вываістая, самаход калыша. Раптам псуецца штосьці і машына стае. Я стараюся паладзіць. Націскаю штосьці і самаход едзе, ды недалёка, зноў спыняецца, а да мяне выходзяць мае сардэчныя каляжанкі, абедзве ўжо ўдовы. Я далучаюся да іх і мы ўсе тры пайшлі разам". Сон адгадала Ніна: „Ты ратуеш мужа (ён цяжка хворы), прадоўжыш яму крышку жыццё, але ненадоўга, ён хутка ад цябе адыдзе". Неўзабаве Верын муж памёр. Старое аўто псуецца — гэта канчаецца жыццё.

Надзя: „Іду я з Зінкай, каляжанкай, ля моста на Нарве ў напрамку вёскі В. Перад мостам вісіць вайсковая шапка на калочку. Я падбягаю і хапаю шапку, а ў той момант Зінка ўляцела ў глыбокую затоку, што ля ракі. Нам тады было па 16 гадоў. Пайшлі мы да цёткі Гандзі, якая адгадвала сны. А яна нам і кажа: „Вы абедзве ў адзін год выйдзеце замуж, ды ты, Надзя, за вайсковага, а ты, Зіна, выйдзеш замуж ды так упадзеш у проглыбку. Вашы мужы будуць з суседняй вёскі". Прайшло тры гады і мой сон спраўдзіўся, я выйшла замуж за вайсковага, а Зіна ў суседнюю вёску — мучылася. А нашы мужы былі з той самай вёскі каля ракі Нарвы".

Маня: „Дружылася я з двума хлопцамі, ды не ведала якога выбраць, хаця адзін з іх мне больш падабаўся і я рашыла, што буду „хадзіць" менавіта з ім, мо і за яго пайду замуж. Адной ночы сніцца мне: я іду шырокім гасцінцам, паабапал лес, ідзем разам з тым хлопцам за якога я рашылася выйсці замуж. Ідзем, ідзем, і раптам бачу: па маім левым баку вузенькая трыба ў лесе. Я павярнула ў трыбу, а хлопец пайшоў далей адзін простым гасцінцам. Мая бабуля сказала: „Унучачка, ты за яго не выйдзеш замуж, ты яго чамусьці пакінеш, адыдзеш". Споўнілася, я па дурасці пакінула яго".

Ніна: „Забалела нага, пачала крыху пакульгваць. Думала: пройдзе, не раз штосьці пабаліць, ды найчасцей само прыйдзе і само пройдзе. Адной ноччу сніцца: Я ў школе, настаўніцай, бяру дзённік пад паху і іду на ўрок. Бачу — будынак школы вельмі далёка. Перада мною дарога і высокі мост, а пад ім глыбіня вады бясконцая. Думаю: як улезці на дарогу, каб не ўпасці ў бездань. Удаецца! Пачынаю ісці дарогай, а яна цэлая ў балоце, а будынак школы вельмі далёка. Як дайсці, я ж у адкрытых туфліках, а тут грязь, балота, холад... Прачнулася. Ужо ведала: буду доўга хварэць. І так сталася — пазваночнік і нага, вялікія болі, шпіталь, рэабілітацыя, ужо мінула дзевяць з паловай месяца, а я яшчэ не „дайшла да школьнага будынка", хаця ўжо мо недалёка...". Балоцістая дарога — працяглая хвароба, а на нагах басаножкі, холад — хвароба ног.

Ніна: „Захварэў мой муж. А мне ноччу сніцца: я выходжу замуж за свайго мужа. Надзела белую сукенку, вэлюм, як трэба, толькі як даехаць у царкву, у тую вёску, дзе сапраўды я брала шлюб? На чым даехаць? А вакол балота вялікае, чорнае, гразкае. Я амаль да пояса запэцкала балотам сукенку, вэлюм у гразі, чорны... Тут бачу, бацюшка едзе фурманкай. Я ўскакваю на воз, а паабапал мяне ў чорнай вопратцы рослыя мужчыны. Вельмі мяне сціснулі. Шлюбная вопратка — перамена жыцця, а чорнае балота, мужчыны — вялікая бяда. У мужа аказалася смяртэльная хвароба, праз некалькі месяцаў я засталася адзінокай, са сваім горам".

Часам можа быць сон, які датычыць не цябе, а кагосьці блізкага або добра знаёмага. Надзя: „Сніцца мне аднойчы — сяджу ў сябе на лавачцы на панадворку і чую, як мая суседка разам са сваёй маці ідуць прагулкай і вельмі гучна спяваюць. Прачнулася і падумала: ну, штосьці нядобрае іх спаткала, будуць яны плакаць. Хуценька мой сон збыўся: трагічна памерла дзіцё — абедзве доўга плакалі, бо спяваць у сне — значыць, будзеш плакаць".

Ніна: „Сніцца мне сон: я сяджу ў фатэлі ў сваёй хаце. Гляджу: а тут перад акном стаіць маці маёй каляжанкі Веры, старэнькая маці хварэла. А з другога боку акна, за шыбай, перад тварам маці — яе памерлы муж, Верын бацька. Я прачнулася і званю Веры. Вера тады сядзела ў Белавежы. Сон я пераказала ёй дачцэ і прашу, каб Вера прыехала дамоў, бо яе мама памрэ. Вера адразу не прыехала, не паверыла, а сон збыўся, неўзабаве яе маці памерла.

Калі сніцца акно, глядзіш праз акно або яго бачыш, — значыць, штосьці адбудзецца вельмі хутка. Калі сніцца асоба памерлая — вядома — бяда, хвароба, або і смерць".

Бываюць і сны цудоўныя.

Валя: „Паўгода прайшло, як памёр мой бацька, я вельмі плакала, бегала на магілкі. Адной ночы мне сніцца: лета, сонейка моцна грэе, а я з бацькам іду суседнім панадворкам. Пытаю: „Тата, а як табе там?, а ён і адказаў: „Дачанька, „там" так весела, так мне добра...". Я паверыла, перастала плакаць і бегаць на магілку".

Ніна: „Мая мама не любіла шчарбатых жанчын і на гэта ўсё праказвала: Помні, як я памру, не забудзь укласці мне зубны пратэз". Я здзейсніла маміну просьбу — зубы ўлажыла. Праз два тыдні мне сніцца: я іду з мамай па гарадской вуліцы, аб чымсьці талкуем, а тут мама шырока ўсміхнулася, паказваючы прыгожыя зубы, а потым памаленьку пачала адыходзіць ад мяне, аж схавалася за густымі кустамі. Я адчула гэты сон як падзяку ад мамы".

Лідзія: „Аднаго поранку ўстаў мой муж і кажа мне: „Прысніўся мне мой брат Янак. Здаецца, я прыйшоў над яго магілу, а ён схапіў мяне за руку і цягне ў магілу". — „А ці пусціў ён тваю руку?" — спыталася я. — „Не памятаю". Не мінуў годзік, а мо трохі больш, і мой муж памёр". Часам, каб адгадаць свой сон, заглядваеш у соннік, іх жа ёсць многа. А ўсётакі, не кожнаму сімволіка сонных мрояў згаджаецца з нашымі, кожнаму з нас могуць яны абазначаць што іншае, таму найлепш паслухаць саміх сябе, свайго нутра, псіхікі, інтуіцыі...

Дарагія чытачы, а мо і вы дасведчылі прарочых сноў, раскажыце, напішыце. А вам жадаем самых прыгожых і толькі шчаслівых прарочых сноў.

**Астраложка**

# Дыз'інфарматар

sto% design

старонкі: 1 2 3 4 5 6 7 8

новы карпаратыўны сецiўны веснік з карцінкамі студыі двойчы дызайну «Адліга»

## www.adliga.com

Нашае цяперашняе жыццё цяжка ўявіць без разнастайных рэкламных лозунгаў, кідкіх назваў, заклікальных слоганаў. Многія з іх адразу пасля прачытання вылятаюць з галавы, іншыя па невядомых прычынах застаюцца ў ёй і маюць той-сёй уплыў на ход нашых думак. Каб нешта, нават насуперак нашай волі, засела ў галаве, працуюць разнастайныя дызайнеры, капірайтары і іншыя «рэкламныя супрацоўнікі».

У беларускім Мінску даволі значнае месца сярод распрацоўшчыкаў разнастайных выяў займае дызайнерская студыя «Адліга». На сваім рахунку яна мае процьму прац, так ці інакш звязаных з беларускай адметнасцю. Каб у гэтым упэўніцца, варта зазірнуць на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.adliga.com**.

Калі цікаўны карыстальнік выйдзе на гэтую вэб-старонку, то перад яго вачыма адкрыецца даволі цікавая яе назва — «Дэз'інфарматар», які ёсць «новым карпаратыўным сецiўным веснікам з карцінкамі студыі двойчы дызайну „Адліга"». Такое першае знаёмства адразу стварае ўражанне, што перад намі праца даволі кемлівых, трапных на слова і смелых у выказваннях поглядаў людзей. Цалкам упэўніцца ў гэтым дазваляюць размешчаныя знізу выяўленні выхадныя дадзеныя сайта.

Што ж тычыцца асноўнага выяўлення, то яно прадстаўляе сабой выключна прыклады дызайнерскай працы «Адлігі». Там месцяцца, прынамсьці, адозва з заклікам перамагчы рак — «Пераможам», вокладка для кнігі журналіста Севярына Квяткоўскага «Як стаць беларусам. Сто гісторый» з дарвінаўскімі ступенямі пераўтварэння малпы ў беларуса, адным з прамежкавых якіх быў трактар, вокладка да кнігі мастацтвазнаўца Віктара Марціновіча «Мова», якая чамусьці аздоблена кітайскімі іерагліфамі.

У прынцыпе, беларускамоўнасць «Адлігі» ў суцэльным рускамоўным свеце сучаснай Беларусі невыпадковая, бо знаходзіцца студыя дызайну побач з беларускім культурным аазісам у Мінску — кнігарняй «ЛогвінаЎ». «Адліга» не стварае таго, у што апранацца, «Адліга» выдумляе ўпрыгожанні і дробязі — аксесуары, прынты на цішотkі, кепкі. Усё тое, што параю штрыхоў зменіць вас да непазнавальнасці", — сцвярджалася ў адным з тэлерасповедаў аб «Адлізе» на Белсаце.

Аднак, як сведчыць гісторыя, пераказаная тэлеканалам, гэтак было не заўсёды. На пачатку, яшчэ ў 1998 годзе, «Адлігу» стварылі як рэкламнае агенцтва. Потым пастанавілі перапазіцыянаваць кампанію ў студыю з творчым ухілам у беларускую мову. Па сутнасці, «Адліга» ў сваёй галіне стала беларускамоўным пiянерам.

«Беларускасць у пазіцыянаванні студыі ў гэтай галіне адметная. І, трэба прызнацца, што адметная таксама з камерцыйнага гледзішча. Гэта магчымасць адрозніць кампанію ды яе прадукцыю на фоне астатніх у большасці сваёй небеларускамоўных праектаў», — распавядае кіраўнік студыі «Адліга» Вецер Механічны, сапраўднае імя якога Анатоль Лазар.

Пры гэтым падаюцца дзіўнаватымі думкі дызайнера пра беларусаў, якія ён выказаў грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Так, ён упэўнены, што беларус можа заставацца беларусам нават без ведання беларускай мовы, бо сённа слова і панятак «беларус» вельмі фармальнае, а беларусамі нас робіць «наша кроў і наша зямля». Аднак Лазар не распавядае, напрыклад, чым жа беларуская кроў адрозніваецца ад польскай ці рускай, і што стане, калі раптам адбудзецца іх змяшанне.

**Уладзімір Лапцэвіч**

# Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



*Жыццё пад агнём*

## 95 гадоў з дня нараджэння Барыса Рагулі

Легендарны змагар за Беларусь Барыс Рагуля нарадзіўся 1 студзеня 1920 г. у мястэчку Турэц (цяперашні Карэліцкі раён) у праваслаўнай сям'і. Вядомы ён у нашай гісторыі як беларускі настаўнік, вайсковы і палітычны дзеяч, доктар медыцыны, намеснік старшыні Беларускай Народнай Рэспублікі да 1997 года. У эміграцыі Рагуля быў старшынёй сусветнай арганізацыі Канферэнцыя вольных беларусаў, старшынёй філіяла Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе, актыўным сябрам Згуртавання беларусаў Канады.

Дзяцінства Рагулі было трагічным. Калі хлопчыку было паўтара года, памёр бацька, а неўзабаве і маленькі брацік. Першую адукацыю Барыс Рагуля атрымаў у Любчы, потым вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі і Навагрудскай польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча. У 1938 г. паступіў на медычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, але неўзабаве быў мабілізаваны ў войска. У чэрвені 1939 г. скончыў польскую афіцэрскую школу ў Замбраве. Быў прызначаны камандзірам эскадрона ў 42-м палку польскага войска ў Беластоку. У верасні 1939 г. бараніў мяжу з Усходняй Прусіяй. 17 верасня трапіў у нямецкі палон. Адтуль пасля некалькіх няўдалых спроб здолеў усё ж уцячы і вярнуцца на радзіму. Нейкі час разам з сябрам быў у Беластоку. Ужо там яму тлумачылі, што такое савецкая ўлада. Потым вагонам для перавозкі збожжа прыехаў у Баранавічы. У Навагрудку сустрэўся з маці. Спрабаваў паступіць у Львоў на медыцынскі факультэт, але там ужо скончыўся набор.

Пазней Рагуля ўладкаваўся на працу настаўнікам нямецкай мовы ў рускай школе ў мястэчку Любча, адкуль была родам яго маці. Неўзабаве быў арыштаваны НКВД, прайшоў праз мноства допытаў, катаванні і праз нейкі час абвінавачаны ў шпіянажы, арганізацыі кола на карысць Нямеччыны, распаўсюдзе антысавецкай прапаганды, падрыхтоўцы збройнага паўстання ў Беларусі, і прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Але хутка пачався нямецкі напад на Савецкі Саюз і Рагуля шчасліва ўцёк з турмы ў час адступлення савецкай арміі. У час нямецкай акупацыі ён уладкаваўся ў Навагрудскую адміністрацыю і працаваў перакладчыкам. Удзельнічаў у арганізацыйным сходзе Беларускай незалежніцкай партыі ў 1942 годзе. Сябраваў з Язэпам Сажычам, быў добра знаёмы з Вінцэнтам Гадлеўскім.

Пры дазволе нямецкага камісара Навагрудскага павета Вільгельма Траўба ў лютым-сакавіку 1944 г. Рагуля сфармаваў Навагрудскі конны эскадрон. Меў ён вялікі аўтарытэт сярод моладзі, якая ахвотна ішла ў гэтае фармаванне. Аднак ужо было зразумела, што незалежнасці Беларусі бліжэйшым часам не дасягнуць. Урэшце Рагуля сабраў увесь свой атрад і прапанаваў разыходзіцца альбо выязджаць за мяжу. Тыя, хто засталіся, прыкладам Кастусь Рамановіч, пасля трапілі ў сталінскі канцлагер. Сам камандзір, добра ведаючы, што такое савецкая ласка, эміграваў і апынуўся ў амерыканскім сектары Нямеччыны. Пазней выехаў у Канаду.

Далей была актыўная праца ў беларускіх колах эміграцыі. Памёр Барыс Рагуля 21 красавіка 2005 г. у горадзе Лондан, што ў правінцыі Антарыё ў Канадзе. Жыццю і дзейнасці Рагулі даследчык Лявон Юрэвіч прысвяціў адмысловы нарыс „Жыццё пад агнём...".

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

# Экуменічная сустрэча ў Кляшчэлях

21 снежня 2014 года ў Кляшчэлях адбылася святочная экуменічная сустрэча. Арганізатарам мерапрыемства быў Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку, а суарганізатарам — Рада горада і гміны. У мясцовым цэнтры культуры «Гладышка» сабралася каля сотні ўдзельнікаў, у тым ліку ганаровыя госці — мэр горада Высокае Мікалай Сачык з жонкай і дырэктар Высокаўскага цэнтра пазашкольнай працы Людміла Дудар, адстаўны генерал паліцыі Рышард Сяверскі, старшыня Таварыства сяброў Кляшчэлеўскай зямлі Андрэй Рошчанка, бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі, дырэктар Міжнароднага фестывалю «Вэртэп» Дар'юш Скібінскі, старшыня Рады горада Кшыштаф Лянгэ, павятовы радны Ян Корч, праваслаўныя і каталіцкі святары, гмінныя радныя ды шматлікае кола жыхароў. У мастацкай частцы з калядкамі выступілі фальклорная група з Дабрывады, «Вішанька-Чарэшанька» з Сухавольцаў пад кіраўніцтвам дыякана Лукаша Барташука, гурты ГАКСіА, а таксама дуэт Зянон Селеваноўскі і Марк Скамароўскі. Аб каляднай традыцыі і падарунках ад святога Мікалая расказаў дыякан Лукаш Барташук. Пасля пачалася мастацкая частка. У рэпертуары былі праваслаўныя і каталіцкія калядкі. Паколькі «Вішанька-Чарэшанька» і пявунні з Дабрывады прэзентавалі праваслаўныя калядкі, дык гурты Гарадскога цэнтра культуры і дуэт Селеваноўскі-Скамароўскі выканалі каталіцкія. Перад тым, як сесці за экуменічны стол святары згаварылі малітву і блаславілі стравы. Чырвоны боршч і шчолак з сушаных фруктаў зварылі працаўнікі Гарадскога асяродка культуры, спорту і адпачынку, калядныя стравы падрыхтавала «Карчма ў Валентага». Сустрэча прайшла ў мілай, сяброўскай атмасферы. Варта адзначыць, што арганізаванне экуменічнай сустрэчы з'яўляецца цыклічным мерапрыемствам і на стала прапісана ў календары культурных мерапрыемстваў Гарадскога цэнтра культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях. **(ус)**

Фальклорная група з Дабрывады

Фота Таісы Барысюк

## Вынікі фотаконкурсу „Падляшша ў аб'ектыве”

У Музеі і Асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы агучылі вынікі фотаконкурсу „Падляшша ў аб'ектыве” імя Віктара Волкава. Першую ўзнагароду заваяваў Сэбасцян Паўляк з Ламянэк-Дольных. — „Падляшша ў аб'ектыве жыхара гэтага ж Падляшша і турыста”, — кажа Агнешка Ціханюк з Беларускага музея ў Гайнаўцы. — Фатографы нашага ваяводства адшукваюць такія тэмы, якія адыходзяць. А тыя сюжэты, якія ад нас, сучасныя, яны, можа сказаць, ужо вычарпаліся. Ім гэта здаецца штодзённым, яны шукаюць чагосьці новага.

Арганізатары плануюць выдаць альбом з самымі цікавымі фотаздымкамі, якія з'явіліся на конкурсе цягам 10-ці гадоў. Лепшыя працы X Фотаконкурсу „Падляшша ў аб'ектыве” можна пабачыць у Беларускім музеі ў Гайнаўцы да палавіны 2015 года.

**Лукаш ЛЕАНЮК,** Беларускае Радыё Рацыя

*Галіна* **БІРЫЦКАЯ**

## *Вілея ў Нараўцы*

*Выбралі мы войта*
*ўжо не першы раз.*
*Спадар Мікалай Павільч*
*— найлепшы ёсць для нас.*
*Бедным ён паможа, запамогі дасць,*
*каб яны не галадалі ў гэты цяжкі час.*
*Калектывам песняй нашу гміну расслаўляць.*
*Гэта добра, каб найдаўжэй маглі співаць,*
*бо песня — душы пацеха таксама ў цяжкі час.*
*Старэйшым ды адзінокім*
*войт пастараўся вілею зрабіць,*
*бо яны самі сядзяць дома,*
*часам няма з кім пагаварыць.*
*Аўтобус па вёсках праехаўся,*
*з найдалейшых закуткаў людзей пазбіраў,*
*каб у гэты вечар ніхто не астаўся сам.*
*У вілейнай вячэры многа тут страў,*
*стараліся, каб усім ядою дагадзіць.*
*А таксама ёсць тут ксёндз ды бацюшка,*
*каб яду на стале малітвай паблагаславіць,*
*а туга і смутак хай ідуць у нябыт.*
*— Ежце на здароўе, прабуйце ўсяго,*
*Забудзьце пра сваю адзіноту,*
*хай у вашых сэрцах цепліцца святло.*

# 04.01 — 10.01

**(22.03. — 20.04.)** Аж да 27.01. маеш гарантаваную стабільнасць і пачуццё бяспекі. 4-8.01. маеш вельмі добрую руку да сватання. Інтэнсіўная праца. Ды штосьці можа пайсці не па тваёй думцы. Не абяцай лішняга, бо можаш застацца адзін.

**(21.04. — 21.05.)** Набяруць тэмпу прафесійныя справы, аж да 27.01. Атрымаеш шанц зрэалізаваць свае намеры, пахвалы. У першай палове месяца маеш шанц пасталець. Вельмі ўслухоўвайся ў сігналы цела. Зоркі дададуць табе сілу і трываласць, але пільнуйся калі маеш праблемы з сэрцам і ціскам крыві ды з венамі, ступакамі і лыткамі (схадзі да лекара). Добра высыпайся і еж. На рабоце поспехі, але шмат залежыць ад ладоў з супрацоўнікамі.

**(22.05. — 22.06.)** Найгоршае за табою! Знакаміты час знаёміцца і здабываць каштоўныя інфармацыі. Калі ўздыхаеш да старога кахання, перамажы гэты сентымент. У Блізнят у парах час гармоніі. Калі ў пары не ладзіцца, паразмаўляйце 3-6.01., зноў з радасцю будзеце праводзіць час. Добра высыпайся, вельмі глядзі сваё горла і галасавыя звязкі.

**(23.06. — 23.07.)** 4-6.01. будзеш вельмі нервовы, не спяшайся ў справах патрабуючых засяроджання і ўважлівасці. Шануй сябе і свае патрэбы. Праблемы ў пары адыдуць у забыццё. Знайдзі выхад для расстроеных нерваў. Пачнеш жыць на ўсю катушку, асабліва 4-6.01., запрэжаны да вычэрпваючай працы розум можа зрабіць табе непрыемныя сюрпрызы. Адпачні. А ў першай палове студзеня чакаюць змены і новыя выклікі на працы. Наладжанне супрацоўніцтва з асобай, якая можа змяніць тваю прафесійную сцежку.

**(24.07. — 23.08.)** У студзені магчымыя праблемы са здароўем; не лячыся сам. Не плануй у гэтым тыдні важных спраў. Калі ты адзінокі, не вяртайся да таго што было. Аж да 27.01. будзеш прымушаны да кампрамісаў сярод радні і сяброў, змен у хаце. Не шкадуй часу на забаву. На працы поспехі, але вельмі дбай аб міжасобасныя адносіны. І пільнуйся канкурэнцыі. У гэтым тыдні магчымыя прыкрыя сітуацыі на рабоце ці ў школе.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш дысцыплінаваны. Вельмі добры час раскруціць бізнес, выконваць абавязкі. Накіруеш сваю ўвагу таксама па партнёра. У першай палове студзеня хатнія справы на ціп-топ. Вельмі добра і са здароўем. Плануй рэалізацыю найбольш смелых задум. У прафесіі час збораў, але не мусіш даказваць, які ты добры!

**(24.09. — 23.10.)** Сіла, каб пераадолець кожную перашкоду. Хаця магчымыя канфлікты ў пары, але стань перад нялёгкай сітуацыяй, каб пасля не шкадаваць. А свабодныя Шалі аж да 27.01. не адгоняцца ад аматараў, кожнае рандэву — вельмі ўдалае. Але не дай сябе звесці абяцанням навырост. А тут і яшчэ арганізм будзе аслаблены.

**(24.10. — 22.11.)** 3-6.01. нязломная воля і ўпартасць. З усім справішся спяваючы, дасягнеш таго, чаго хочаш. Калі ты самотны, можа закрунуць табе ў галаве асоба шмат старэйшая ад цябе; не бойся, таму што можа быць тою, з якой створыш фантастычную і поўную кахання рэляцыю. Дома сардэчная і прыязная атмасфера, але кажы адразу, што табе не пасуе. У студзені нішто цябе не будзе абмяжоўваць, яшчэ і падзаробіш, можаш ажыццявіць і старыя задумы.

**(23.11. — 22.12.)** 3-7.01. лёгкасць і гумар. Але не перацані сваіх магчымасцей. Будзеш шалець у кампаніі, ззяць інтэлігентнасцю і шалёнымі задумамі. Новыя знаёмствы. У сям'і да нічога не падыходзь легкадумна. Задбай аб сваю псіхіку. Пільна працуй.

**(23.12. — 20.01.)** Расслабішся і гладка зрэалізуеш свае намеры. Твой аптымізм пяройдзе на іншых. У пачуццях кіпенне; не будзь радыкальным! Дома развяжы старыя справы. Пік формы. Дзякуючы аднаму з сяброў даведаешся аб чымсьці, што зменіць тваё жыццё. Здароўе моцна хворага Казярога ў студзені паправіцца.

**(21.01. — 19.02.)** Пільнуйся — з-за абычаго можаш штосьці страціць! Рамантычныя хвіліны. Пачуцці ў старой пары заззяюць. Добры настрой у першай палове студзеня. Нічога не занядбоўвай у здароўі ў студзені, бо зашкодзіш сабе на пару месяцаў.

**(20.02. — 21.03.)** Калі сэрца затрапечацца табе да кагосьці, адразу скажы аб сваіх пачуццях, каб яго не страціць. 8-12.01. прадвяшчаюцца праблемы з шэфам або з людзьмі, ад якіх ты залежны. Магчымыя нямогласці звязаныя са стрэсам і стомай — галаўныя болі, мігрэні, калацьцё ў грудзях, сутаргі лытак; спажывай мікраэлементы. Студзень добры на візіты ў дантыста і рэабілітацыю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. свойская буйная рагатая жывёла з невялікім тлушчавым гарбом на карку (*Bos taurus indicus*) = 2 _ 9 _ 17 _ 16 _;
2. падрабязнае апісанне навігацыйных асаблівасцей воднага басейна = 19 _ 20 _ 21 _ 3 _ 1 _;
3. горад караля Прыяма = 15 _ 14 _ 13 _ 10 _;
4. школьная „гадзіна” = 5 _ 6 _ 7 _ 11 _;
5. перыяд палавой актыўнасці сабачых самак = 8 _ 22 _ 12 _ 4 _ 18 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | | | | |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | | | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

### Адказ на адгаданку з 50 нумара

Кароль, дзюна, карабель, тона, Сідней, Непал, вядро, Баку, каралева, Моўчадзь, возера.

Рашэнне: **Варонаю не будзь, то і сарока не падвядзе**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1300 egz.



# Украіна ў цяні вайны (15)

Нечаканая сустрэча з Галінай Раманаўнай, бежанкай з Данецка, прамовіла як дапаўненне пабачанага і пачутага ў дарозе. Пра такіх выгнаннікаў нашыя прыгодныя субяседнікі адзываліся з насцярожанасцю і без спачування. Гаварылі пра іх як пра апошніх ленагузаў і хітруноў, якім захацелася пакарыстацца дабрабытам, нажытым *заходнікамі* ў поце і крыві. Дзяліцца з імі сваім дабром і цяплом, ці хоць бы спачуваннем, не было ахвоты. Рэй у гэтай „справядлівай" аплявусе, як не дзіўна, вялі працавітыя і дбайныя грамадзянкі і матулі, а іх варожасць, што ні чуць не здзіўляла, была накіравана найперш супраць жаночага полу:

— Тыя бежанкі адно пра свой выгляд дбаюць, — хвалявалася Аксана са Львова, — да ніякай работы іх рукі не прыстаюць. Або свае ногці чысцяць, пілуюць і фарбуюць...

Сама Аксана мела пафарбаваныя ў верасовы колер губкі і начасаныя кудры, таму яе меркаванні пра бежанцаў прагучалі як бабская зайздрасць і канкурэнцыя. Яна сама ніколі не размаўляла з бежанцамі. Ды навошта? Вядома як гэта скончыцца! Будуць слёзы і нараканні, пасля пойдуць жахлівыя расказы пра вайну, у рэшце рэшт яны стануць дамагацца яды і грошай. Ды адкуль на ўсё гэта ўзяць? Чалавек сам ледзь канцы з канцамі зводзіць. Не, лепш хай дзяржава клапоціцца пра іх лёс...

Аксана не надта верыла ў свае словы, быццам паўтарала пачутыя ад кагосьці на ляту чуткі, каб такім, адвечным і спрактыкаваным спосабам, улагодзіць сваё пачуццё страху і безабароннасці.

Яна не давярала *гэтым* з Усходу.

* * *

Галіна Раманаўна сваёй элегантнай знешнасцю вельмі падыходзіла да партрэта бежанкі, размаляванага Аксанай. Спачатку нам падалося, што размаўляем з актрысай, або жонкай нейкага алігарха. Нягледзячы на свае гады — ёй было ўжо за семдзесят — жанчына захавала прыгожасць і паводзіла сябе быццам дама. Аднак абставіны, у якіх мы пазнаёміліся, не наклікалі зайздрасці. Галіна Раманаўна ўжо трэці дзень качавала ў прывакзальным гатэлі, чакаючы месца ў цягніку, каб у рэшце рэшт дабрацца ў Кіеў. Цягам папярэдняга месяца спынілася ў санаторыі ў карпацкім Трускаўцы. Ды замест падлечыцца, яшчэ больш расхварэлася. Бо там, дзе не ступі, адны бежанцы. Ад Данецка, Славянска, Луганска...

— У нас была адна размова, — кажа Галіна Раманаўна, — кожны хацеў вярнуцца да сябе, на радзіму.

Хоць больш, чым настальгія, дакучала ёй прыніжэнне на кожным кроку. На бежанца, як бы ён не стараўся і што б не казаў, глядзяць з падазронасцю і недаверам...

Гэта мела псіхалагічныя паслядоўнасці. Ужо на пачатку знаёмства Галіна Раманаўна сама па сваёй ініцыятыве выказала сваю пазіцыю ў адрас Расіі і яе прэзідэнта. Гэты апошні быў у яе вачах апошнім з апошніх злачынцаў.

— Пуцін гэта сапраўдны Гітлер! — заявіла.

У апошнім сцвярджэнні было больш акцёрства, чым нянавісці. Жанчына гаварыла сваю прамову на літаратурнай мове, ды настолькі прыгожа і паэтычна, што нідзе раней чалавек не чуў такой ідэальнай мовы, ні ў славутым Львове, ні ў прызабытым Цяне, ды нават у тэлебачанні.

Пасля, калі Галіна Раманаўна пачула што мы — не грамадзяне Украіны, аўтаматам памяняла фронт і перастала ваяваць з „гітлерам" ды прамовіла на расейскай мове. Пасля залілася слязамі і доўга хадзіла туды-сюды па нашым калектыўным апартаменце, за дзесяць долараў ад асобы...

* * *

Свае ўяўленні аб прыгожых і элегантных бежанцах Аксана грунтавала на знешніх назіраннях. Яе вочы не манілі, верна адбівалі пабачанае. Нідзе ў краявідзе Заходняй Украіны мы не сустрэлі абарваных ці галодных бадзяг, якія хоць крыху напаміналі ваенных выгнаннікаў. Ды ў Львоў ці Трускавец не траплялі звычайныя грамадзяне з Данецка, якія ў спеху і жаху, часта з пустымі рукамі, уцякалі ад абстрэлу або пажараў. Яны перамяшчаліся некалькі кіламетраў ад фронту з надзеяй, што неўзабаве пашчасціць вярнуцца ў пакінутыя гарады і пасёлкі. Іх размяшчалі ў неабагрэтых інтэрнатах і дамах культуры, кармілі з агульнага катла, дзялілі на душу санітарныя сродкі і лякарствы.



— Для гэтых няшчасных я аддам апошнюю кашулю, — гаварыла Аксана, — трэба ж дапамагаць у бядзе...

Адначасова Аксана не жадала спачуваць і дапамагаць элегантным дамам, ужо адна іх прысутнасць хвалявала і абурала, з-за чаго напамінала „цётку рэвалюцыі".

Элегантная Галіна Раманаўна ў сваю чаргу ніколі не хацела б застаца ў Львове. Якая тут Еўропа? Ведае, што говорыць, нараз пабывала ў Італіі, была ў Аўстрыі, у Парыжы. Шырокі свет не зачараваў яе.



Чалавек, дзе не паедзе, і так думае пра сям'ю і дом.

— А вы былі ў Данецку? — пытае і тэатральна здзіўляецца, калі чуе адмоўны адказ.

Бо ж такой прыгожасці як Данецк, нідзе не сустрэнеце, не пабачыце!

Хоць, не. Галіна Раманаўна ведае, што трэба гаварыць у мінулым часе пра сваю прасторную кватэру ў самым цэнтры горада. Усюды адтуль было рукой падаць. Тры крокі ў гандлёвы цэнтр, тры крокі ў тэатр, тры крокі ў парк... З вясны, аж па прымаразкі, горад аздаблялі мільёны чырвоных руж...

— Нідзе больш на свеце не пабачыце такога горада!

Сама Галіна Раманаўна не спяшала ў бліжэйшы час пабачыць зруйнаваны Данецк.

— Лепш памерці дзесьці ў чужым горадзе, чым вяртацца на папялішчы. Усё там будзе балець і напамінаць мінулае і будзе застаўляць ненавідзець Расею.

* * *

Ужо ў пачатку знаёмства Галіна Раманаўна назвала сябе лекаркай. У доказ яе слоў на начным століку ляжаў стэтаскоп. Побач ляжалі шчыпцы для завіўкі, старэнькі фен і інструменты для манікюру. Добры знешні выгляд ратаваў апошнія ашчэпкі гонару, якія адабралі вайна і выгнанне. Галіна Раманаўна, хоць была пры грашах і не прасіла ў нікога ласкі, мела хворыя нервы. Каб падбіць свае цярпенні, яна яшчэ безупынна званіла знаёмым з Данецка, каб пачуць ад іх пра чарговыя знішчэнні ў сваім любімым горадзе.

— Заўтра адпраўлюся ў Кіеў, там у мяне сябры, знаёмыя. Можа яны ў нечым дапамогуць?

Мы спыталі ці жадае з'ехаць на Захад, каб далей ад вайны, хаця б у суседнюю Польшчу. Галіна Раманаўна тактоўна не падняла тэмы.

— У мяне ўжо засталася адна мара, — сказа нам на развітанне, — каб ніхто ўжо больш не цярпеў такіх прыніжэнняў як бежанцы. Усюды, дзе павернешся, вецер у вочы. І пагарда!

Больш як горкія словы запамяталася мне супольная ноч з Галінай Раманаўнай. Усю ноч яна маньякальна хадзіла туды-сюды па апартаменце, як нейкая шыбанутая мара. Уражлівасць і старанна дагледжаная прыгожасць, якая трымалася за дня, зараз была вывернута дагары нагамі. Яе кожны мог патаптаць, аплёваць...

Мы не паверылі, што Галіна Раманаўна была калісьці ў жыцці лекаркай, аднак належным чынам ацанілі яе прафесійны макіяж.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960